# Рэгіянальная газета. Rh.by

ТэлетыДзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

7 жніўня 2015 года №32 **(1058)**







**Інтэрв’ю з Алесяй Кульшой**

**Як разгледзелі талент у пацанцы, што крала яйкі і надзявала “крутым дзеўкам” сметніцу на галаву**

старонкі **20-21**

**Як у нашым рэгіёне будавалі дамы з верасу і гліны**



старонка **19**

**Закаткі ў сям’і Рысікаў пачынаюцца вясной і не спыняюцца зімой**

старонка **3**

# ТАЛОНАЎ НЯМА

**7:15** Бяру талон. Работніца рэгістратуры паведамляе, што талонаў да афтальмолага больш няма

**7:00** Пачынае працаваць рэгістратура

**6:30** Вяртаюся ў паліклініку. У чарзе каля 60 чалавек

**5:30** Дачакалася наступнага чалавека, іду дамоў карміць ката і піць каву

**5:21** Займаю чаргу. Я дзявятая

**5:00** Выходжу з кватэры

**4:40** Спрацоўвае будзільнік

Чытайце на 5-й старонцы

Фота Наталлі ТУР.




У "Зубраняці" сябруюць дзеці з розных краін.

АДПАЧЫНАК

# Японцы на Нарачы здзіўляліся прыродзе і елі печаную бульбу

МЯДЗЕЛ

**Японскія дзеці зноў прыехалі ў дзіцячы цэнтр "Зубраня". Адпачываюць тут школьнікі, якія пацярпелі ад аварыі на АЭС "Фукусіма".**

Такі візіт арганізуецца чацвёрты год запар.

Падчас яго юныя японцы адпачываюць, аздараўліваюцца, ездзяць на экскурсіі. Вось 31 ліпеня знаёміліся з Мядзелам.

– Гасцям з Японіі падабаецца беларуская прырода. Кажуць, што тут вельмі прыгожа, – расказвае перакладчыца **Марына**. – Японія – краіна з вельмі насычаным рытмам жыцця, а тут можна расслабіцца, такая рэлаксацыя. Ім тут усе новае, бо Японія вельмі адрозніваецца ад Беларусі. Падабаецца ім беларуская ежа, і тое, што людзі вельмі адкрытыя, добрыя. Яны не ведаюць мову, але знаходзяць агульны кантакт з беларускімі дзецьмі: спрабуюць стасункі жэстамі і ўсмешкамі.

– Праязджалі па вашым краі на аўтобусе. Уразіла, што вельмі шмат лясоў, вельмі прыгожая прырода, – дзяліцца ўражаннямі адзін з японцаў.

**Госці праходзяць медыцынскае абследаванне і аздараўленчыя працэдуры, загартоўваюцца і знаёмяцца з беларускімі традыцыямі.**

### Японскія танцы і беларуская бульба

У "Зубраняці" адбываюцца розныя мерапрыемствы. Так, прайшло свята беларуска-японскага сяброўства.

Дзеці паказалі свае творчыя здольнасці, пабачылі выступленне калектыву традыцыйнага японскага танца "Мандзюсяка" і пакаштавалі печаную на вогнішчы бульбу.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




20 ГОД "РГ"

# Іван Драўніцкі: "Патрэбную работу робіце"

**Краязнаўца з вёскі Камарова на Мядзельшчыне Іван Драўніцкі з "Рэгіянальнай газетай" пазнаёміўся даўно. Нават і не памятае, як гэта было.**

– Здаецца, купіў неяк у Мінску, раней там прадавалі. Спадабалася, стаў выпісваць. Шмат год падшыўку вёў.

Выкарыстоўваў матэрыялы для занятказ гуртка "Валошкі" ў школе. Напрыклад, са "Школкі дзядзькі Капцюга". Па некаторых малюнках дзеці пісалі маленькія сачыненні. Працы **Капцюга** падштурхнулі нас да пошукаў цікавых аб'ектаў. Гледзячы на іх, рабілі экспедыцыі па вёсках, шукалі кузню, двары, забудовы.

"Рэгіянальная газета" мне цікавая тым, што краязнаўчыя матэрыялы друкуе. Яшчэ падабаюцца артыкулы пра жыццёвыя шляхі людзей.

Сам таксама даваў у газету краязнаўчыя матэрыялы. Прыгадваю, як "Рэгіянальная" напісала пра з'яўленне кнігі **Зыдора Вайнілкі** – паэта родам са Свіршчыны, інваліда з дзяцінства. Апошнім часам ён жыў у Лагойскім доме-інтэрнаце. Зыдор памёр, і не паспелі перадаць яму кнігу.

**Але ж паэт даведаўся, што на радзіме выпусцілі зборнік яго вершаў. І даведаўся праз "РГ".**

Калектыву газеты жадаю: "Так трымаць"! Патрэбную работу робіце. Гэта адзіная газета ў рэгіёне, якая надае ўвагу не толькі падзеям сённяшняга дня, а і мінулага. Бо без мінулага не можа быць будучыні. Трэба ведаць, адкуль мы пайшлі, адкуль наш род. І ў гэтым дапамагаюць такія вось кропелькі – этнаграфічныя замалёвачкі, біяграфічныя звесткі, расказы пра гістарычныя падзеі, што з'яўляюцца ў "Рэгіянальнай газеце".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ТРАНСПАРТ

# Адкрылі новую трасу, якая звязала Ашмяны і Астравец з важнейшымі магістралямі

АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ

**Адкрылі новую трасу Р-52, якая звязала Ашмяны, Астравец, Беларускую АЭС і дзве найважнейшыя магістралі – Мінск-Вільня і Вільня-Полацк.**

– Апошні ўчастак працягласцю 15,6 кіламетры дзяржкамісія прыняла ў пятніцу, 24 ліпеня. Гэта дазволіла адкрыць рух па так званым паўднёва-заходнім абходзе Астраўца, – расказаў галоўны інжынер РУП "Гроднааўтадар" **Аляксандр Рута**. – Поўная працягласць новай дарогі каля 50 кіламетраў. Будучая Беларуская АЭС атрымала новыя пад'язныя шляхі з боку трас М7 Мінск-Вільня і Р45 Вільня-Полацк.

Новая траса вельмі зручная для кіроўцаў – на ёй мінімум перасячэнняў, практычна няма населеных пунктаў.

### Траса сучасная і зручная

На выездзе з Ашмянаў на месцы перасячэння новай дарогі з трасай М7 пабудавана зручная і сучасная двухузроўневая развязка. Раней у гэтым месцы было небяспечнае перакрыжаванне з кругавым рухам. У спецыяльныя тунэлі змясцілі пешаходныя пераходы. Уся развязка ноччу падсвечваецца.

Шырыня асфальтабетоннага пакрыцця – 12 метраў, палосы для руху маюць шырыню 3,5 метры, узбочына ўмацаваная.

Усяго на новай дарозе – тры масты і тры пуцеправоды. Адзін з пуцеправодаў на перакрыжаванні трасы з чыгункай у перспектыве можа стаць яшчэ адной транспартнай развязкай, калі ў будучым узнікне неабходнасць аўтамабільнай сувязі са станцыяй Гудагай.

**Паводле Гродзенскага аблвыканкама.**

ПРЫРОДА

# Другі раз за лета забараняюць наведваць лясы

Шэраг раённых выканаўчых камітэтаў Міншчыны прыняў рашэнні аб увядзенні забароны на наведванне лясоў насельніцтвам і ўезду аўтатранспарту.

У тым ліку ў Вілейскім і Валожынскім раёнах.

Пра гэта інфармуе Мінскае дзяржаўнае вытворчае лесагаспадарчае аб'яднанне.

Ад 5 жніўня ўводзіцца забарона на наведванне лясоў на ўсёй тэрыторыі Гродзенскай вобласці. Чакаецца, што ў бліжэйшы час забарона на наведванне лясоў будзе ўведзеная на тэрыторыі астатніх раёнаў рэспублікі, паведамляе прэс-служба Мінлясгаса.

На Маладзечаншчыне таксама разглядаюць магчымасць накласці забарону на наведванне лесу.

Забарона ўводзіцца ў сувязі з усталяваннем спякотнага і сухога надвор'я.

За парушэнне прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць у памеры да 25 базавых велічынь.

**Аддзел інфармацыі.**

ХАРЧАВАННЕ

# Закаткі ў сям'і Рысікаў пачынаюцца вясной і не спыняюцца зімой

ВІЛЕЙКА

**Рыхтуй сані летам – гаворыць народная мудрасць. І гэтай парады прытрымліваецца амаль кожная гаспадыня.**

Але галоўны іх клопат – нарыхтаваць садавіну, гародніну, закансерваваць яе, каб быць спакойнымі, што зімой сям'я не застанецца галоднай.

Сям'я **Святланы Рысік** з вёскі Мільча Вілейскага раёна не губляе часу пасля зімы – заўсёды многа нарыхтоўваюць садавіны і гародніны, робяць закаткі.

– Гэта напэўна ў менталітэце вяскоўцаў – спарадкаваць тое, што вырасла на агародзе, – расказвае Святлана. – Раней усе ў драўляных бочках маласолілі агуркі, бачкамі наварвалі варэнні. Многае не з'ядалася – вясной агуркі ішлі ў гной, пачыналіся новыя нарыхтоўкі. Цяпер ужо навучыліся варыць столькі, колькі з'ясі. І тое шкада, калі асыпаюцца ягады ў агародзе, гніюць яблыкі, таму і парадкуем.

## Закатваць дапамагае ўся сям'я

Нарыхтоўкі ў сям'і жанчыны пачынаюцца з ранняй вясны – збіраюць бярозавы сок. Разыходзіцца хутка, асабліва ў спёку. Сёлета яго нарыхтавалі 240 трохлітровых слоікаў.

Закаткі Святлане дапамагае рабіць ўся сям'я: сыны **Коля** і **Віця** збіраюць ягады, малодшы Віця закатвае слоікі, а муж **Дзмітры** выносіць іх у пограб, каб стаялі да зімы.

– Гэты год, у параўнанні з мінулым, больш шчодры на ягады –парэчкі, маліны, – дзеліцца гаспадыня. – Таму зрабіла і варэння, і сіропу з маліны, і кампоту. Толькі агуркі сёлета падвялі.

**Жанчына ў маласольныя агуркі раіць дадаваць крышачку гарчыцы – так яны не пакрыюцца цвіллю.**

Раней жанчына закатвала па 50 трохлітровых слоікаў агуркоў. Цяпер значна менш – не разыходзіцца.

– Ды і дзе ж яно разыдзецца – у магазінах круглы год ляжаць і агуркі, і памідоры, разнастайная садавіна, – расказвае Святлана. – Сваё добра, але хочацца і свежага. Хаця зімой смак не той.

Калі ў сям'ю Рысікаў прыязджаюць госці, іх частуюць закаткамі, даюць з сабой. "Ніхто без дамашняга падарунка не з'язджаў", – смяецца жанчына.

## Зімой закатваюць тушонку

Жанчына гадуе бройлераў і свіней. Таму зімой робяць тушонку, складаюць у слоікі сала.

– Я вельмі кухонны чалавек, – прызнаецца Святлана. – Вельмі люблю гатаваць, знаходзіць новыя рэцэпты. Таму выпісваю многа кулінарных газет, часопіў, знаходжу рэцэпты ў інтэрнэце. У мяне ёсць некалькі любімых рэцэптаў кансервавання, але кожны год спрабую нешта новае. Заўсёды дзялюся з іншымі гаспадынямі.



Фота забяспечана Мікалаем РЫСІКАМ.

Закаткі Святлане Рысік дапамагаюць рабіць сыны Коля (злева) і Віця.

## Рэцэпт паштэта ад Святланы Рысік

3 кг сала, 2 кг фарша, 1,5 кг печані. Усё трэба перакруціць на дробную мясарубку, пасля дадаць 20 яек, 10 цыбулін сярэдняга памеру, 100 грамаў солі, перац па смаку. Усё добра перамяшаць, паставіць на дзве гадзіны ў духоўку, пасля раскласці па банках.

**Галіна СІНІЦА.**

## Доктар: вітамінаў у закатках мала

– Пасля таго, як садавіну і гародніну абдаюць кіпнем, у іх застаецца вельмі мала вітамінаў, – адзначае намесніца галоўнага доктара Валожынскай раённай бальніцы **Марыя Магільніцкая**. – У садавіне, з якой зрабілі варэнне, няма вітаміна С, ён знікае падчас варкі.

Спецыяліст не рэкамендуе есці многа закатак людзям з хваробамі страўніка, ішэмічнай хваробай сэрца, сардэчна-сасудзістымі захворваннямі, непажадана даваць іх дзецям.

– Калі робяць закаткі з гародніны, то дадаюць у іх соль і воцат, – расказвае доктар. – Соль затрымлівае вадкасць, а гэта шкодна для людзей з захворваннямі сэрца.

Марыя Магільніцкая раіць есці закаткі ў меру, тады яны не прынясуць вялікай шкоды для арганізму.

| Курсы валют НБ РБ | 30.07 | 6.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 15 212,00 | **15 565,00** |
| Еўра | 16 816,00 | **16 926,00** |
| Злоты | 4 076,65 | **4 098,27** |
| Расійскі рубель | 254,22 | **248,37** |
| Грыўня | 688,25 | **712,51** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 5.08** | | |
| Еўра | 16650/16850 | **16800/17020** |
| Долар ЗША | 15150/15300 | **15470/15600** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 29.07 | 5.08 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53800 | **53800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 29400 | **29400** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 85000 | - |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 37300 | **37300** |
| Селядзец, 1 кг | 54000 | **54000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 118000 | **118000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **14000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13700 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 12000 | **12000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 19000 | **19000** |
| Маянэз, 200 г | 4900 | **4900** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14500 | **14500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 37000 | **37000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 8500 | **8500** |
| Капуста, 1 кг | 5500 | **4500** |
| Морква, 1 кг | 12000 | **10000** |
| Буракі, 1 кг | 5000 | **5000** |
| Лімоны, 1 кг | 36900 | **36900** |
| Апельсіны, 1 кг | 24900 | **23900** |
| Мандарыны, 1 кг | 29900 | **29900** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 35000 | **29500** |
| Ківі, 1 кг | 39000 | **36500** |
| Нектарыны, 1 кг | 24500 | **23900** |
| Абрыкосы, 1 кг | 26900 | **19900** |
| Чарэшні, 1 кг | 34900 | **45000** |
| Памідоры, 1 кг | 14900 | **13500** |
| Агуркі, 1 кг | 6000 | **6000** |
| Перац, 1 кг | 13500 | **10000** |
| Вінаград, 1 кг | 34500 | **34900** |
| Бананы, 1 кг | 16500 | **14500** |
| Кавун, 1 кг | 6000 | **5500** |
| Дыня ("тарпеда"), 1кг | 12000 | **11000** |
| Яблыкі, 1 кг | 16500 | **16500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 29500 | **19900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба маладая, 1 кг | 6900 | **5000** |
| Сала, 1 кг | 90000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |



ЗДАРОЎЕ

# У дзвюх вёсках Вілейшчыны знайшлі радыеактыўныя ягады

ВІЛЕЙКА

**Чарніцы даюць найбольшы ўраджай і актыўней іншых убіраюць радыёнукліды з глебы.**

Сёлета перавышэнне радыёнуклідаў ў 1,5 разы знайшлі ў дзвюх пробах чарніц з вёскі Талуць і Іжа на Вілейшчыне.

На рынку актыўна гандлююць ляснымі ягадамі. Але не ўсе прадаўцы маюць суправаджальныя дакументы да прадукцыі. У мэтах уласнай бяспекі не забывайцеся правяраць ягады і грыбы ў лабалаторыі.

Гэта можна зрабіць на рынках або бясплатна ў маладзечанскім занальным цэнтры гігіены і эпідэміялёгіі па вуліцы Чкалава, 2а. Для даследавання патрэбны літр пэўнай прадукцыі. Пробу ўладальніку вяртаюць на працягу дня і даюць адказ. Калі вы гандлюеце ягадамі і грыбамі на рынку, абавязкова праверце іх на утрыманне цэзію ў лабалаторыі ветэрынарна-санітарнай экспертызы рынка. Вам дадуць адпаведную даведку.

Небяспечна купляць ягады і грыбы па-за рынкамі, каля дарог і іншых неўстаноўленых месцах.

Не збірайце грыбы ў лесе, забруджаным радыёнуклідамі, побач з прамысловымі прадпрыемствамі, фермамі, каля шашы і чыгункі. Грыбы здольны накопліваць радыёнукліды і солі цяжкіх металаў – гэта небяспечна для здароўя. Калі вы спажываеце такія ягады, радыёнукліды застаюцца ў арганізме надоўга, гэта можа прынесці небяспечныя наступствы для здароўя.

**Ірына КАЗАКЕВІЧ, доктар-гігіеніст радыёацыйнай гігіены Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**



Фота krasotastia.ru

Жанчына цягам трох гадзін угаворвала знаёмых браць крэдыты. То ёй трэба быў аўтамабіль, то ўпарадкаваць дом.

СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

# Угаварыла знаёмых аформіць крэдыты на паўмільярда рублёў

## Людзі перадавалі жанчыне па 100 мільёнаў рублёў

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанскі райаддзел Следчага камітэта расследуе крымінальную справу ў дачыненні да 44-гадовай мясцовай жыхаркі.**

– Жанчына з 2011 па 2014 гады ўгаварыла сваіх знаёмых узяць на сябе крэдыты ў аддзяленнях розных банкаў горада, абяцала пагашаць усе плацяжы, – расказала афіцыйны прадстаўнік Упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**. – Падставы былі розныя. У адным выпадку ёй патрэбныя былі грошы на куплю аўтамабіля, у іншым – на добраўпарадкаванне дома.

Даверлівыя грамадзяне па просьбе жыхаркі Маладзечаншчыны бралі нават некалькі крэдытаў і перадавалі ёй розныя грашовыя сумы: 40, 60, 100 і больш мільёнаў рублёў.

Жанчына не мела дастатковых магчымасцяў, каб своечасова пагашаць штомесячныя плацяжы. І банкі пачалі прымаць меры да спагнання грашовых сум з пацярпелых.

У міліцыю сталі паступаць заявы ад грамадзян. Ахвярамі сталі каля 15 чалавек. Яны ў банках горада набралі крэдытаў на суму, большую чым паўмільярда рублёў.

Дзеянні падазраванай следчыя кваліфікавалі як махлярства, здзейсненае ў асабліва буйным памеры.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Зняла з чужой карткі грошы і месяц трымалася версіі, што папрасілі

МЯДЗЕЛ

**Сын знойшоў на стадыёне кашалёк, прынёс дамоў, а жанчына забрала картку і загадала аднесці яго на месца.**

Жыхарка курортнага пасёлка Нарач (Купа) 26 чэрвеня прывезла сваю дачку ў Мядзел на прадстаўленне цырка.

Жанчына схадзіла ў краму і чакала дачку на стадыёне. Там жа на лаве пакінула кашалёк з грашыма і банкаўскай карткай.

Знікненне кашалька заўважыла толькі назаўтра. Патэлефанавала ў банк з просьбай заблакаваць картку. Тут яе агаворылі весткай, што ўжо знятыя 900 тысяч рублёў. Жанчына звярнулася ў міліцыю.

Па запісе камеры відэаназірання ўстанавілі, што зняла грошы 32-гадовая мядзяльчанка. Яна не адмаўляла гэтага. Аднак сказала, што папрасіў яе зняць грошы незнаёмы мужчына, паколькі сам не ўмеў карыстацца банкаматам.

Такой версіі трымалася ажно месяц.

Урэшце вымушаная была прызнаць, што ўзяла чужыя грошы яна.

**Як аказалася, кашалёк знайшоў на стадыёне сын. Прынёс дадому. Жанчына ціхенька ўзяла картку і лісток з пін-кодам. Сыну ж загадала аднесці кашалёк на месца, дзе знайшоў.**

А сама ўвечары паехала да банкамата ў паліклініцы і зняла грошы, расказаў намеснік начальніка Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта **Міхаіл Сакалдынскі**.

27 ліпеня ўзбудзілі крымінальную справу за крадзеж шляхам выкарыстання камп'ютарнай тэхнікі. Жанчына кампенсавала страты.

А Міхаіл Сакалдынскі яшчэ раз нагадвае, што не трэба захоўваць картку разам з пін-кодам.

**Аддзел інфармацыі.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Збілі да смерці

ВІЛЕЙКА

**У прыватным доме ў Вілейцы 28 ліпеня пасля сумеснага распіцця спіртнога ўзнікла сварка.**

Падчас яе 48-гадовы жыхар Брэсцкай вобласці збіў жыхарку Вілейкі. Ён нанёс 37-гадовай жанчыне не менш за пяць удараў па галаве і тулаве. Прычыніў цяжкія цялесныя пашкоджанні ў выглядзе траўматычнага шоку, множных пераломаў рэбраў і разбітай правай долі печані. Ад гэтых траўмаў жанчына памерла на месцы.

Мужчына ўвечары сам выклікаў міліцыю. Яго затрымалі, праводзяцца следчыя дзеянні, расказаў начальнік Вілейскага райаддзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў**.

Узбудзілі крымінальную справу за наўмыснае прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў, якія пацягнулі смерць.

**Аддзел інфармацыі.**

## Пагражаў жонцы забойствам

ВІЛЕЙКА

**Адбылося гэта позна ўвечары 26 ліпеня.**

Жыхар вёскі Коўшавічы Ільянскага сельсавета нападпітку пасварыўся з жонкай. Падчас сваркі 55-гадовы мужчына пагражаў жонцы забойствам. Потым пайшоў і прыцягнуў аўтамабільную шыну да самай сцяны дома. Падпаліў яе.

Жанчына пачула трэск, выскачыла з дома на двор. Муж стаяў у двары. Жанчына пачала тушыць шыну, дапамаглі суседзі. У выніку дом не загарэўся, распавёў следчы Вілейскага райаддзела Следчага камітэта **Вадзім Пуцэйка**.

31 ліпеня ўзбудзілі крымінальную справу па факце пагрозы забойствам і знішчэннем маёмасці.

**Аддзел інфармацыі.**

УВАГА! ВЫШУК

## Чый труп знайшлі за гаражамі?

МАЛАДЗЕЧНА

**Міліцыя высвятляе асобу мужчыны, труп якога знайшлі ў стадыі раскладання 30 ліпеня.**

Яго знайшлі ў хмызняку за 13-м гаражным кааператывам па вуліцы Міру непадалёк ад рэчавага рынку.

Ён памёр не менш чым 20 сутак таму.

Рост 190 сантыметраў, чорныя кароткія валасы.

На правай і левай ступнях няма двух пальцаў, трэці палец – кукса.

Мужчына быў апрануты ў светлую майку з шэрымі і сінімі палоскамі з кароткімі рукавамі і надпісам "W ARMANI", сінія джынсы, белыя шорты з зялёнымі ўстаўкамі, сінія трусы, цёмныя шкарпэткі. Быў абуты ў цёмна-карычневыя красоўкі з белымі палоскамі і чырвонай паласой на абцасах.

Пры сабе меў пачаты пачак цыгарэт "Карона" жоўтая і запалкі.

Калі ласка, калі вы штосьці ведаеце пра асобу гэтага чалавека, паведаміце ў бліжэйшы аддзел унутраных спраў ці па тэлефоне **102**.

**Ларыса КАЦЯЛОЎСКАЯ, старшы оперупаўнаважаны аддзела крымінальнага вышуку Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

МЕДЫЦЫНА

# Па талоны прыходзьце ў пяць раніцы

## 800 пацыентаў ў месяц не прыходзяць на прыём, на які заказалі талон

МАЛАДЗЕЧНА

**Палова на шостую раніцы. На вуліцы амаль не ездзяць машыны, гаспадары яшчэ не выгульваюць сабак, спяць дваровыя каты. І толькі сонныя гараджане пацяху сцякаюцца да будынка паліклінікі па Скарыны.**

Усім трэба ўзяць запаветны талончык. Учора я спрабавала атрымаць талон днём, але ў паліклініцы сказалі, што па талон варта прыходзіць да таго, як пачынае працу рэгістратура. Гэта значыць, да сямі раніцы.

У 5:21 у чарзе па талон я дзявятая.

Пацяху фае паліклінікі запаўняецца народам. І няпраўда, што ў чарзе адныя бабулькі!

Пад фікус садзіцца мужчына:

– Во як, раней пад фікусам у рэстаране сядзеў, цяпер у паліклініцы.

За паўгадзіны да адкрыцця акенца рэгістратуры па калідоры шоргаюць нагамі дзве прыбіральшчыцы:

– Нешта народу сёння мала...

У чарзе ўжо стаіць каля 60 чалавек!

Акурат у 7 гадзін раніцы пачалася "раздача сланоў".

Атрымаўшы талон, чую дыялог дзяўчыны і работніцы рэгістратуры:

– Як няма талонаў? Я заняла чаргу ў шэсць раніцы? У колькі тады прыходзіць?

– Прыходзьце заўтра. Вам да якога доктара?

– Афтальмолага. Ну дайце хоць дадатковы талон!

– Дадатковы толькі па вострай болі!

– Ну а мне што рабіць? Вока сабе выбіць, каб доктар прыняў?!

**– А што калі адмяніць талоны?**

На пытанне адказвае загадчыца паліклінікі № 1 **Святлана Дубаневіч**:

– А вы прапануеце дактарам прымаць людзей па "жывой" чарзе? На стаўку доктар абавязаны за змену прыняць 40 пацыентаў, я б не хацела аказацца 41. Талон хаця б дае гарантыю, што доктар вас прыме.

А тое, што людзі прыходзяць ад ранку займаць чэргі, Святлана Дубаневіч тлумачыць так:

– Гэтую сітуацыю мы не вырашым, пакуль штат у паліклініцы будзе недакамплектаваны. Узяць хаця б тых жа афтальмолагаў. У паліклініцы павінны быць амаль чатыры стаўкі доктара-афтальмолага. Цяпер жа працуе толькі адзін доктар на адну стаўку. І прымае яна да 70 чалавек на дзень. Неўролага ж у нас пакуль няма наўгул.

Але на момант падрыхтоўкі матэрыялу ў друк нам паведамілі, што неўролаг у паліклініцы ўжо з'явіўся. Прыйшла маладая доктарка па размеркаванні.

– Але каб трапіць на прыём, – працягвае Святлана Дубаневіч, – зусім неабавязкова прыходзіць з самага ранку.

Калі наведванне доктара не тэрміновае, то на прыём можна запісацца загадзя. Больш за тое, на сайце **talon.by** можна замовіць талон да любога спецыяліста.

– Бывае, што талон замовяць, а на прыём не прыходзяць, – кажа Святлана Дубаневіч.

У паліклініцы вядзецца спецыяльная кніга ўліку незапатрабаваных талонаў.

У чэрвені, напрыклад, 231 чалавек, што замовілі талон праз інтэрнэт, не дайшлі да доктара.

У той жа месяц на прыём не прыйшлі 591 чалавек з тых, хто замовіў талон па тэлефоне або заказаў папярэдне.

Святлана Дубаневіч уздыхае:

– Няма ў нас яшчэ дастатковага ўзроўню культуры. Хіба цяжка папярэдзіць, што не прыйдзеце? Кожны месяц прыкладна 800 чалавек не могуць трапіць на прыём да доктара, таму што некаторыя прыходзяць і набіраюць адразу па 5-10 талонаў, і сабе, і ўсім сваім суседзям і сваякам.

З размовы з загадчыцай паліклінікі стала зразумела, што ў бліжэйшы час сітуацыя з талонамі наўрад ці зменіцца.

І зноў давядзецца ўставаць з самай раніцы , і зноў спадзявацца на фартуну ў спробах выпаць талончык праз інтэрнэт, і зноў пра сябе лаяць тых, хто прыходзіць па талоны ад няма чаго рабіць.

А што, калі паспрабаваць паважаць адзін аднаго, і незапатрабаваны талон вяртаць у паліклініку, каб той дзяўчыне з чаргі не даводзілася выбіваць сабе вока, каб трапіць на прыём да афтальмолага?


Работніца рэгістратуры паліклінікі №1 у Маладзечне Людміла Жаўткоўская.

Фота Наталлі ТУР.

### Як замовіць талон да афтальмолага ў райцэнтрах?

На гадзінніку поўдзень. Праверым, ці можна ў гэты час замовіць талончык. Мы вырашылі ва ўсіх паліклініках прасіць талончык да аднаго доктара – афтальмолага.

ВАЛОЖЫН

Тэлефон рэгістратуры: **(8-01772) 55-7-33.** Працуе па панядзелках – пятніцах 07:45 – 20:00, па суботах 08:00 – 14:00.

Талон да доктара-афтальмолага браць загадзя не трэба. Прыём пачынаецца ў 16:00 і работніца рэгістратуры прапанавала прыйсці ў гэты час.

МЯДЗЕЛ

Тэлефон рэгістратуры: **(8-01797) 59-3-89**. Працуе па панядзелках – пятніцах 07:00 – 20:00, па суботах 08:00 – 15:00.

Доктар-афтальмолаг у адпачынку, а медсястра, як адказалі ў рэгістратуры, цяпер у ваенкамаце. І бліжэйшыя два тыдні функцыі доктара па вачах будзе выконваць хірург. Пры гэтым, у рэгістратуры параілі звярнуцца ў Вілейку.

ВІЛЕЙКА

Тэлефон рэгістратуры: **(8-01771) 5-40-82**. Працуе па панядзелках – пятніцах 07:00 – 20:00, па суботах 08:00 – 15:00.

У Вілейцы аказалася, што талон можна ўзяць загадзя. Хочаш на пятніцу, хочаш на панядзелак. Работніца рэгістратуры пацікавілася, на які час вам будзе больш зручна. На пытанні пра прозвішча даявлося пакласці трубку, за што прашу прабачэння ў ветлівай дзяўчыны з рэгістратуры.

СМАРГОНЬ

Тэлефон рэгістратуры: **(8-01592) 4-67-82.** Працуе па панядзелках – пятніцах 07:00 – 20:00, па суботах 08:00 – 15:00.

У Смаргоні замовіць талон можна папярэдне. Як і ў Вілейцы, спыталіся зручны час.

– Калі ў вас нешта ў рэгістратуры, – адказалі ў рэгістратуры, – паспрабуйце прыйсці па жывой чарзе. Доктар прымае да 13 гадзін.

АСТРАВЕЦ

Тэлефон рэгістратуры: **(8-015) 91-2-22-48.** Працуе па панядзелках – пятніцах 07:00 – 20:00, па суботах 08:00 – 15:00.

Да астравецкага афтальмолага талон можна ўзяць за тыдзень да прыёма. Праўда, раней талонаў ужо няма.

АШМЯНЫ

Тэлефон рэгістратуры: **(8-015) 93-4-43-26.** Працуе па панядзелках – пятніцах 07:00 – 20:00, па суботах 08:00 – 15:00.

Бліжэйшы талон да афтальмолага прапанавалі на чацвер, 13 жніўня на 10:15. Але важна, што яго можна замовіць загадзя.



**Наталля ТУР**
natali.turenok@gmail.com
044-566-26-99 (працоўны)

ІНФРАСТРУКТУРА

## Новую школу пабудуюць у курортным пасёлку Нарач

МЯДЗЕЛ

**Выязная нарада па пытаннях развіцця курортнай зоны Нарачанскага рэгіёна адбылася 24 ліпеня.**

Прыняў удзел у ёй намеснік прэм'ер-міністра **Міхаіл Русы**.

Ён паведаміў, што да 1 верасня 2016 года ў курортным пасёлку Нарач (Купа) пабудуюць школу на 510 месцаў. Мяркуецца, што будаўніцтва школы пачнецца 1 верасня. Аб прапанове пабудаваць школу ў бліжэйшы час будзе дакладзена **Аляксандру Лукашэнку**.

Гэты рэгіён, па словах намесніка прэм'ер-міністра – перспектыўны, тут павінны быць створаны добрыя ўмовы. Вопыт развіцця Нарачанскага рэгіёна будзе распаўсюджаны на іншыя раёны.

Старшыня Мінаблвыканкама паведаміў, што ў Нарачанскім рэгіёне будуць развіваць туры выхаднога дня. На яго думку, рэгіёну не хапае актыўнага прасоўвання на рынку турыстычных паслуг.

Старшыня Мінаблвыканкама даручыў прадумаць новыя туры выхаднога дня, якія былі б запатрабаваныя сярод адпачываючых. У першым паўгоддзі маршруты выхаднога дня наведалі больш за 12 тысяч турыстаў (за 2014 год – каля 18 тысяч). Шапіра назваў лічбу недастатковай.

Ён даручыў прадумаць ўмовы для больш актыўнага развіцця ў рэгіёне фермерскіх гаспадарак.

**Паводле прэс-службы Савета Міністраў Беларусі і БелТА.**

СЛУЖБА 101

## Знайшлі разбіты тэрмометр з ртуццю

ВАЛОЖЫН

Раніцай 3 жніўня, выратавальнікам паведамілі, што на лецішчы ў садовым таварыстве "Факел" знайшлі скрынку з ртуццю. Падчас уборкі гаспадар знайшоў у пакоі на шафе пластмасавую скрынку. У ёй быў разбіты медыцынскі тэрмометр. Небяспечны метал разліўся на падлогу.

Выратавальнікі сабралі ртуць, яе ўтылізуюць. Канцэнтрацыя пароў метала была дапушчальнай.

**Паводле паведамлення МНС.**

ФЕСТЫВАЛІ

# Пугач: Жыць лёгка, калі паміж вушамі мазгі, а не сцяжок

**Пакуль саліст "J:Морса" разважаў пра лёс беларускіх рок-фестываляў, саліст гурта "Трубяцкой" кідаў у натоўп піва, каб фестываль перастаў быць "тухлым".**



Дык выпускай сваё
джала, джала, джала, джала!
Ветра на поўнач нам не хапала.
Джала, джала, джала, джала!
Мы будзем побач, але гэтага мала.

Прыпеў песні "Джала", якую Уладзімір Пугач спяваў на фестывалі "Дружба" ў Станькаве.

Фота Настасі РОЎДЫ.

1 і 2 жніўня ў Станькаве прайшоў другі фестываль "Дружба".

Адкрываў фестываль гурт "J:Морс":

– Мы рады выступаць на гэтым фестывалі, таму што ў яго назве няма прыназоўніка ні за, ні супраць, – сказаў Уладзімір перад выступленнем.

Пасля выступу напрошвалася лагічнае пытанне да **Уладзіміра Пугача**, ці не цяжка жыць, калі ідзеш уласным шляхам?

– Калі я прыйшоў у гэты свет, ніхто і не казаў, што будзе лёгка. Аднак я супраць таннага выкарыстання сваёй папулярнасці. Ёсць сітуацыі, калі можна лёгка набраць ачкі. Памахаць сцягам, падтрымаць сумнеўную ініцыятыву, нейкі рух, пра які забудуцца праз год ці два. А трэба думаць сэрцам і мазгамі. Калі паміж вушамі мазгі, а не сцяжок, тады і жывецца добра.

**– Вас усё часцей можна сустрэць у нязвыклай абстаноўцы: то вы канцэрт ў аблоках ладзіце, то ў дабрачынным праекце "Чалавек чытае" удзельнічаеце. Вам стала цесна на сцэне?**

– А вы ніколі не бачылі электраманцёра ў тэатры? Гэта натуральна, калі чалавек адной прафесіі цікавіцца нечым яшчэ. Што будзе далей, не ведаю. Цяпер усе думкі пра новы альбом, першы за апошнія пяць гадоў.

**– Калі вас чакаць з канцэртамі ў нашым рэгіёне?**

– Як раз восенню, калі будзем ладзіць тур у падтрымку новага альбома.

Уладзімір расказаў, што гэты альбом будзе цалкам рускамоўны, а ўслед за ім ён рыхтуе цалкам беларускамоўны альбом палескіх песень. Песень, якія Уладзімір чуў у дзяцінстве ад бабулі, калі рос у паўднёвым Палессі.

**– Чаму ў Беларусі так мала рок-фестываляў, як думаеце?**

– Філасофскае пытанне. Я лічу, што на 10 мільёнаў насельніцтва такіх фестываляў магло быць больш. Таму, калі нас запрасілі на "Дружбу", мы пагадзіліся адразу.

Акрамя "J:Морса", на фестывалі выступілі гурты "Крама", "Nizkiz", "Серебряная свадьба".

Радыкальна падышлі да паднясця настрою ўсіх прысутных музыканты гурта "Трубяцкой", якія пасля выхаду на сцэну заявілі, што на фестывалі сумна і запусцілі ў натоўп дзве банкі піва.

"Трубяцкой" выканалі не толькі свае песні, але і ўсім даўно знаёмыя "Ты кінула", "Яблыні", "Маніфест" і іншыя. Дарэчы, "Трубяцкой" адзіны гурт, каго гледачы выклікалі на біс.

**Павел Булатнікаў**, фронтмэн гурта, прызнаўся, што для яго гэта нечаканая, але вельмі прыемна.

## Фестываль фармату "слухай сваё" сабраў некалькі тысяч чалавек. І гэта прыемна

Адзін з арганізатараў фестываля, **Віталь Супрановіч**, раскзаў "Рэгіянальнай газеце", што за два дні фестываль наведала некалькі тысяч людзей.

– Асабліва прыемна, што нягледзячы на тое, што у нас лайн ап (*спіс выступоўцаў*) быў цалкам айчынны, прыехала столькі чалавек. Адносна месца пакуль цяжка сказаць, мы яшчэ будзем усё аналізаваць. Магчыма, вернемся ў Шаблі, дзе праходзіў фестываль 2014 года, магчыма, працягнем у Станькаве, а можа ў нас з'явіцца і новыя пляцоўкі. Мінулагодні фэст па складзе быў больш цікавы для публікі, але я асабіста вельмі рады, што сёлетні фэст атрымаўся у нас, так бы мовіць, "слухай сваё" і гэта не адбілася моцна на наведвальнасці. А каму было мала выступу гурта "Крама", то гэта можна будзе выправіць 30 жніўня, калі **Ігар Варашкевіч**, саліст гурта, будзе канцэртам адзначаць сваё 55-годдзе.



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
044-566-26-99 (працоўны)



Фота забяспечана Дыянай ЦЫКУНОВАЙ.

Здымкі фільма "Яны" пачаліся.

КІНО

# Ваўкі і жыццё на выжыванне

ВІЛЕЙКА

**На Вілейшчыне здымаюць містычны фільм "Яны".**

У панядзелак пачаліся здымкі поўнаметражнага фільма "Яны". Не шукайце яго ў планах "Беларусфільма" ці расійскіх студый. Стужку стварае каманда энтузіястаў проста за ідэю.

– Наш фільм пра сучасных падлеткаў, якія ідуць у паход. Але трапляюць у неіснуючы лес – галаграму, – расказвае юны рэжысёр фільма **Дыяна Цыкунова**. – Там яны аказваюцца адны. Адчуваюць страх, холад, голад, знаходзяць каханне і сапраўдных сяброў. На сваім шляху сустракаюць сапраўдныя цяжкасці, ваўкоў і жыццё на выжыванне. У фільме будуць складаныя каскадзёрскія трукі.

**– Чаму для здымкаў выбралі Вілейшчыну?**

У нас непадалёку ад Вілейкі лецішча, куды вельмі часта ездзім ужо на працягу 10 год. Калі выбіралі месца здымак, то не задумваліся. Адразу вырашылі, што Вілейшчына – самы лепшы варыянт. Тут вельмі прыгожыя лясы, побач Вілейскае вадасховішча – лічу, што гэта самы прыгожы кавалачак беларускай прыроды. Тут і месца для начоўкі нам кемпінг "Рыбчына" прадставіў, за што шчыра ўдзячны.

Да здымкаў рыхтаваліся два месяцы. А здымаць фільм будуць месяц. І большую частку – на Вілейшчыне. Запланаваныя здымкі на Вілейскім вадасховішчы, Віліі і непасрэдна каля Вілейкі.

## Працуюць за ідэю

У панядзелак быў першы здымачны дзень. У Мінску здымалі масавую сцэну, у якой удзельнічала больш за 100 чалавек.

**– Звычайна здымкі фільма – задавальненне нятаннае...**

– Так, але над праектам працуюць усе цалкам бясплатна. Скажам так – за ідэю. У нас сабралася каманда людзей, якія вераць у поспех фільма і гатовыя працаваць не пакладаючы рук, каб усё атрымалася як задумана ці нават лепш. На пляцоўцы працуюць таксама прафесіяналы: аператары **Віталь** і **Наталля Адамсовы**, шоумэн **Яўген Булка**. Сярод акцёраў – вядомыя ў Беларусі дзеці: першая пераможца міжнароднага конкурсу "Дзіцячая Новая Хваля" **Крысціна Святлічная**, удзельніца тэлепраекта "Я спяваю" **Вераніка Цыкунова** і іншыя.

Здымуцца ў стужцы таксама жыхары Вілейшчыны: у ролі валанцёраў, якія шукаюць зніклых дзяцей.

Хоць фільм ствараецца за ідэю, ён здымаецца не для сяброў і выкладкі ў Ютубе, упэўніва Дыяна:

– Найперш фільм будзе прадстаўлены на шасці міжнародных фестывалях. Будзе ён ісці ў кінатэатрах Мінска, магчыма, і ў іншых гарадах.

Плануецца прэм'ера фільма на 2016 год.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ВЫСТАВЫ

# Пакажуць выставу, прысвечаную Агінскаму

ВІЛЕЙКА

**Яна пачнецца а 16-й гадзіне 7 жніўня ў выставачнай зале імя Сіліванoccвіча.**

Гэта творчы фотапраект **Міхаіла Крыжаноўскага** "Эпоха Агінскага: аднаўленне памяці", прысвечаны 250-годдзю з дня нараджэння знакамітага кампазітара і палітычнага дзеяча **Міхала Клеафаса Агінскага**.

**Паводле інфармацыі Вілейскага краязнаўчага музея.**

**ЖЫХАРЫ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ, АСТРАЎЦА І АСТРАВЕЦКАГА РАЁНА** могуць размясціць аб'яву ў "Рэгіянальнай газеце", не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.

**☎166**

**Рэгіянальная газета.** Rh.by **ТРАНСПАРТ** Тэлетыдзень

Вашы аб'явы аб продажы транспарту прачытаюць і ў газеце "Вечерний Бобруйск". Адна цана – дзве газеты!

**Вечерний Бобруйск**

## ВІНШАВАНКА

**З юбілеем! З 75-годдзем! Марціну Баляслававічу ТРОТУ з Маладзечна.**



*Няхай ярчэй засвеціць сонца ў ранні,*
*Сагрэе промнямі надзей.*
*Наш тата, мілы, нашы віншаванні – табе,*
*Мы шчыра шлём у гэты дзень.*
*Мы ўдзячны лёсу, што ты ёсць на свеце.*
*Хай для цябе і час прыпыніць ход.*
*Табе жадаюць сёння жонка, унукі, дзеці*
*Здароўя і шчаслівых год!*

☎ <u>12.08.2015г. с 10.00 до 12.00</u>
начальник Молодечненского филиала РУП «Минское областное агенство по государственной регистрации и земельному кадастру»
**Борисенко Владимир Васильевич**
проводит «ПРЯМУЮ ЛИНИЮ» по вопросам, относящимся к деятельности Молодечненского филиала.
Тел. **(8-0176) 58 07 25**. УНП 600199462

Учреждение образования
**«Сморгонский государственный политехнический профессиональный лицей»**
***(г. Сморгонь, ул. Иванова, 42)***
ОБЪЯВЛЯЕТ НАБОР УЧАЩИХСЯ
на 2015/2016 учебный год по специальностям:
на базе общего базового образования
(срок обучения 3 года):
**КАМЕНЩИК; ЭЛЕКТРОСВАРЩИК РУЧНОЙ СВАРКИ; ШВЕЯ, ПАРИКМАХЕР; ШТУКАТУР, МАЛЯР, ОБЛИЦОВЩИК–ПЛИТОЧНИК**.
<u>Приём документов с 15 июня по 20 августа.</u>
Дополнительная информация по телефонам:
**(8-01592) 2-18-85, 2-19-95** Сайт: **smorgonlizey.by** УНП 500228858

**Молодечненский государственный колледж**
продолжает приём абитуриентов по специальности
**«Промышленное и гражданское строительство»**
(техник–строитель)
на основе профессионально-технического образования на заочную форму обучения.
Приём осуществляется **по 14 августа 2015** на условиях оплаты.
Наш адрес: ***г. Молодечно, ул. Городокская,111,***
тел. **8-0176-747221, 8-029-2716465** МТС,
**8-044-7331495** Велком. УНП 600182693

| Тэлефонныя коды | гарадоў рэгіёну: |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

**УО «Молодечненский торгово-экономический колледж» приглашает на обучение по специальностям:**

- Бухгалтерский учёт, анализ и контроль
- Экономика и организация производства
- Коммерческая деятельность (по направлениям)
- Программное обеспечение информ. технологий
- Правоведение

Зачисление – по конкурсу среднего балла документа об образовании.
Дневная (на базе 9 и 11 классов) и заочная формы обучения.
Колледж предоставляет общежитие иногородним учащимся.
***Адрес: г. Молодечно, пл. Центральная, 1.***
Тел. **(0176) 771972, 770151**, сайт: **mtec.by**
УНП 600095711



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўдзі-100-С-4, 2,0. Т. (8-029) 9902813.
- БМВ-318, дызель, 2,0 л, серабрысты, 2007 г.в. Т. (8-029) 6620408, (8-029) 7740852.*
- ВАЗ 21063, 1988 г.в. Т. Вэлком (8-029) 3026845.*
- ВАЗ 2108, 1988 г.в. Т. МТС (8-029) 5715139.*
- Вольва-740, нядорага. Т. (8-029) 8713977.*
- Гольф 3, 1994 г.в., 1,4Б. Т. (8-029) 6158448.
- Дачыя Сандэра, 1,4 б, 40 000 км, выдатны стан, 90 000 000 руб. Т. (8-029) 6575486, (8-029) 8417340.*
- Лексус-GX-470, 2003 г.в., Т. (8-044) 7075922.*
- Лексус-RX-350, 2009 г.в., Т. (8-044) 7075922.*
- Мазда CX-7, 2008 г.в., чорнага колеру, прабег 57 000. Т. (8-029) 5919941, (8-033) 6236095.*
- Мерседэс-Бэнц Спрынтар, 1996 г.в., сіні. Нядорага. (8-033) 3379772.
- Мікрааўтобус ФВ LT-35, 2000 г.в. 2.5ТДІ, выдатны стан. Цана дагаворная. Смаргонь. Т. (8-029) 9277665.
- Міцубісі Спэйс Вэган, 1998 г.в., 2,0 TD, МКП, бардовы, 5-дзверны, у вельмі добрым стане, г. Вілейка. Т. (8-029) 5600458.*
- Міцубісі-Лансер, 2004 г.в., 1.6 Б, серабрысты, седан, 134 т.км., на літых, летняя+зімняя гума. Поўны э/пакет, кандыцыянер, 76 млн.р., торг. Т. (8-029) 6631595.*
- Пежо 807, 2002 г.в., дызель. Лодка гумовая 2-мясцовая. Т. (8-044) 7773142.
- Пежо-406, 1996 г.в., 2,0Б, л/дыскі, СД, скураны салон, д/дажджу, супрацьтуманныя фары, новая АКБ, цёмна-зялёны, сігналізацыя, аддзелка – дрэва, 49 000 000 руб, Вілейка. Т. (8-029) 5047899.*
- Рэно Лагуна, 1996 г.в., 1,8Б. Т. (8-029) 7056221.
- Рэно-Гранд-Сцэнік, 2006 г.в., 2,0 ДСІ дызель. Т. Вэлком (8-029) 1185419, МТС (8-029) 7179424.*
- Таёта-Карона, 1996 г.в., 1,3Б, кандыцыянер, эл. пакет, СД, тэрмінова. Т. (8-029) 7646570.
- ФВ Пасат В-5, 2003 г.в., 1,9ТДІ. Т. (8-029) 7724656.
- ФВ-Пасат Б5,1998 г.в., 1,8 бензін, седан, цёмна-сіні. Т. (8-029) 6151305.
- ФВ Туран, 2006 г.в., 226 700 км, турбадызель, з Германіі, у выдатным тэхнічным стане, дагледжанае аўто, добрая камплектацыя, камплект зімовай гумы. Т. (8-044) 5111366.
- Форд Фіеста, 1992 г.в., 1,1Б, на хаду, ці абмен на карову. Т. (8-025) 7894666.
- Форд-Фіеста, 1992 г.в., 1,3 Б, у добрым стане. Цана 15 500 000. Т. (8-029) 6194636.*
- Цяжкі матацыкл Днепр МТ-10. Т. (8-033) 6316636.
- **АЎТАЗАПЧАСТКІ Б/У ДА РЭНО, ПЕЖО, СІТРАЭНАЎ** у наяўнасці. Для іншых марак пад заказ. Вялікі выбар, нізкія цэны, гарантыя, Маладзечна, вул. Маладзёжная, 10. ІП Еўдакіменка Д.І. УНП 191984027. Т. (8-044) 7149298, (8-029) 8628501, (8-029) 8787760, (8-029) 6392287.*
- Запчасткі Аўдзі-100, 1988 г.в. Т. (8-029) 9902813.
- Аўташына, новая і б/у на 13. Вілейка. Т. (8-029) 6637111.*
- **ЗАПЧАСТКІ Б/У ДА А/М:** Сітраэн-Ксара, Джампер, Пікаса, Эвазьён, С3, С5, С8; Опель-Астра, Вектра, Зафіра, Амега-В; Пежо-206, 306, 307, 406, 407, 607, 806, 807, Боксер, Эксперт; Фіят-Уліс, Скунда, Пунта, Дуката; Форд-Транзіт; Таёта-Пікнік, Авенсіс, Авенсіс Верса; Фольксваген-Цыгуян, Транспарцёр, Т4, Каравела, Крафтар, Пасат-В5, LT28; Рэно-Меган, Сцэнік, Эспэйс, Лагуна-2, Максіці, Маскот, Кангу; Міцубісі-Паджэра-3; Мерседэс-207-410, Віта, Спрынтар; Лянча-Зета, Кіа-Карневал; СААБ 9-5; Нісан-Альмера-Ціна, Кабстар; Івека-Турба-Дэйлі 35.10-59.12 ТАА "МолАўтаСтоп" УНП 690617006. Т. (8-029) 7721520, (8-029) 6015258.*
- Запчасткі б/у да Аўдзі-В3. Т. (8-029) 5686869.*
- Запчасткі б/у да ФВ-Гольф 3. Т. (8-029) 6154346.*
- Запчасткі б/у да ФВ-Пасат В3. Т. (8-029) 8777677.*
- Запчасткі б/у да Форда-Сіера. Т. (8-029) 6578681.*
- Шкло Додж Гранд Караван. Т. (8-044) 7075922.*
- З/часткі да а/м Сітраэн-Ксантыя. Т. МТС (8-033) 6041924, МТС (8-029) 5037549.*
- Запчасткі ад машын: Нісан-Сані, 1989 г., хэтчбэк, 1,7 дызель; Фіят-Тэмпра, 1992 г., 1,6 бензін, Т-4, запчасткі па кузаве, 1994 г.; Фіят-Тыпа, 1992 г., 1,7 дызель, 1,4Б; 1,6Б. Т. (8-029) 3361655, (8-029) 5855759.*

### КУПЛЮ

- **АЎТО, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 6757851.*
- Аўтамабіль у любым стане. Т. (8-033) 6062301.*
- Аўтамабіль, іншамарку, можна з дэфектамі да 30 млн.руб. Т. (8-044) 5572534.*
- Любое аўто, з любымі праблемамі, аварыйнае альбо на запчасткі. Т. (8-033) 6920802.*

### ПАСЛУГІ

- **ПАСЛУГІ МІНІ-ЭКСКАВАТАРА ПАД УСЕ ВІДЫ ЗЕМЛЯНЫХ РАБОТ.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*
- Арэнда **ФРАНТАЛЬНАГА ПАГРУЗЧЫКА** АМКАДОР (коўш 2 куб. м), **ЭКСКАВАТАРЫ-ПАГРУЗЧЫКІ** JCB4CX і Беларус 92П (планіроўка, падрыхтоўка ўчастка, катлаваны, траншэі, мантаж калодзежаў, пагрузка смецця), **САМАЗВАЛЫ** 10-, 20-, 30- і 40-тонныя (**БЕТОН**, пясок, гравій, шчэбень, **ПРЫРОДНЫ КАМЕНЬ**, вываз смецця, **ЗНОС БУДЫНКАЎ**), **АЎТАБЕТОНАЗМЯШАЛЬНІК** 6 куб. м, **ГІДРАМАНІПУЛЯТАР** з прычэпам 22 тоны (16 паддонаў). ТАА "Матэк Про". УНП 695501712. Т. (8-029) 3622022, (8-033) 6686871.*
- Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5062372.*
- **МІНІ-ЭКСКАВАТАР, ТРАНШЗІ ПАД ВАДУ, ГАЗ, ПАДМУРАК. ІП КРОЕР А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.***
- Міні-экскаватар: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*
- Паслугі міні-пагрузчыка, міні-экскаватара, колавага экскаватара, каўшы пад усе віды работ, трамбовачныя машыны. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9098949.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 2-пакаёвая кватэра 53/29,5/8,5 у Вілейцы, 3/5 панель, металічныя дзверы, вокны - пластык, прыхожая – ламінат, гараж, падвал 200 м ад дома. Т. МТС (8-029) 7078401.
- 2-пакаёвая кватэра ў Смаргоні па вул. Савецкая, 47, 2 паверх, утульная, прасторная, акуратная. Металічныя дзверы, зашклёная лоджыя, газавая пліта, раздзельны санвузел, тэлефон, падвал, лічыльнікі на ваду, газ. Кватэра знаходзіцца ў ціхім, спакойным месце, у цэнтры. Нядорага! Тэрмінова! Рэальнаму пакупніку – торг. Т. (8-029) 1101725.*
- 3-пакаёвая кватэра без пасрэднікаў, мэбля, тэлевізары. Т. (8-029) 9741131, (8-0176) 773863.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 2694696, (8-029) 6150904.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- Вытворчае аднапавярховае памяшканне з цэглы, аг.пл. 178,0 кв.м. Незавершанае двухпавярховае памяшканне мансарднага тыпу, блочнае, абліцаванае цэглай, аг.пл. 149,4 м.кв., зямельны ўчастак 0, 0742 га. ТДА "Вайя". УНП 600000103. Т. (8-029) 3463652, (8-029) 8733113.*
- Гараж з падвалам у п. Беразінскае, 46 000 000 руб. Т. (8-029) 3490384.
- Гараж у Вілейцы ў ГБК № 2 блок 6, падвал, яма, тынкаваны. Т. (8-029) 8755384.
- Гараж у ГБК-2 у выдатным стане, 6х4, падвал, яма.. Т. МТС (8-029) 8575375.
- Гараж у ГК №12, **ТЭРМІНОВА,** з ямай і склепам. Т. (8-029) 7740852, (8-029) 6620408.*
- Дача і участак "Дружба-Прынта" у 15 км ад Вілейкі, лес, рака Нарачанка. Агульная плошча 48,7 кв. м. Т. (8-029) 9857408.
- Дом у в. Крыўск Смаргонскі р-н. Т. (8-029) 7582717.*
- Дом у в. Куранец Вілейскага р-на,болей за 100 кв.м, зямельны участак 0,04 га, 75 000 000 руб. Т. МТС (8-029) 5609402, МТС (8-029) 5609398.*
- Дом у в. Повязынь Вілейскага р-на, Хаценчыцкі с/с, 6х8, калодзеж, гаспадарчыя пабудовы. Побач рэчка. Цана дагаварная. Т. (8-01771) 46638, (8-029) 8426736.
- Дом у Вілейцы альбо абмяняю на аднапакаёвую кватэру. Т. (8-029) 5733967.*
- Дом. Вілейскі р-н, в. Ярхі. Т. МТС (8-029) 8639836.*
- Жылы драўляны дом, 6Ч13, у в. Насілава, 22 соткі. Т. (8-033) 6376110.
- Паўдома з участкам 10 сотак ў Вілейцы. Т. (8-029) 2595776, (8-029) 1250700.*
- Участак 12 сотак у в. Пашкоўшчына Мядзельскага р-на, сад, лес, рака, чыгунка, траса Мінск-Нарач, 20 млн. руб. Т. (8-029) 9507913.

### КУПЛЮ

- Дом. Т. (8-029) 3780215.*

### МЯНЯЮ

- Дом у Вілейцы на 2-пакаёвую кватэру. Т. (8-01771) 33273.

**ЗАПАСНЫЕ ЧАСТИ**
**и комплектующие к тракторам**
МТЗ-80, 82, 1221, 1523, 822, 920, 320, 2522, 3022; Т-16, Т-25, Т-40, ЮМЗ.



**Агрегаты и запчасти к ним**
(фрезы, плуги, бороны роторные, картофелесажалки, картофелекопалки, культиваторы, опрыскиватели навесные, разбрасыватели минеральных удобрений и др.)
**Мотоблоки и навесное оборудование** и многое другое.
**Наличный и безналичный расчёт. Возможна доставка**
Тел. **8-025-910-90-43** Лайф, **8-033-679-75-67** МТС.
ИП Василевский В.О. УНП 600302554

**СТО**
- **Замена ГРМ, сцепления**
- **ТО кондиционеров**
- **Ремонт ходовой**
- **Развал-схождение**
- **Ремонт глушителя**
- **Шиномонтаж, аргон**

Тел. в Молодечно **58-10-30, (029) 876-51-17, (029) 335-48-04, (029) 64-61-463**
*Молодечно, ул. Т. Дудко, 2* (рядом с таможней). Работаем без выходных.
ООО "Авто-Мотор- Плюс". УНП 690552830

- **Компьютерная диагностика и ремонт электрооборудования** любой сложности;
- **Решение проблем:** клапан ЕГР, катализатор, сажевый фильтр;
- **Проверка и регулировка СО, СН;**
- **Заправка и ремонт кондиционеров;**
- **Замена ГРМ;**
- **Диагностика и ремонт подвески;**
- **Запчасти** в наличии и под заказ.

Т. Велком **(8-044) 741-91-83**, МТС **(8-029) 779-93-27**.
**Шиномонтаж**
Т. **(8-044) 533-32-66, (8-029) 769-73-09.**
ОДО «Игл» УНП 690603198

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап'янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

** Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

## ЗДАМ




- 1-пакаёвую кватэру ў Мінску для маладой сям'і на доўгі тэрмін. Т. (8-033) 6642100.*
- 2-пакаёвую кватэру з мэбляй, рамонтам у а.г. Шылавічы. Т. (8-044) 4847472, (8-033) 6049290.
- 3-пакаёвую кватэру ў Турэц-Баяры, без мэблі, ёсць тэлефон, інтэрнэт. Т. (8-025) 9200598. Маладзечна.*

## НАЙМУ

- Памяшканне да 15 м² з рамонтам у Смаргоні пад салон прыгажосці. Т. Вэлк. (8-029) 6088643.*



# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Відэаздымка вяселляў, банкетаў і інш. урачыстасцяў. Падарыце сабе фільм, які будзе цікава глядзець доўгія гады! ІП Сысоеў А.А., УНП 691892382. Т. (8-029) 5063428.*
- Вяселлі. Юбілеі. Карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

## ПАСАЖЫРАПЕРАВОЗКІ

- Арэнда Мерседэс-Спрынтар, 8 месцаў з вадзіцелем. Вяселлі, экскурсіі Польшча, Літва. ІП Карпечанка І.В. УНП 691174725. Т. (8-033) 6193193.*

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Івека – фургон да 3 тон, даўжыня 3,7 м, санпашпарт, санкніжка. ІП Радзілавец В.А. УНП 691393672. Т. МТС (8-029) 7038367.*
- Мерседэс 412, 2,5 т, 20 куб. М. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*
- Тэнт, да 5 т. ПТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Будаўнічыя работы любой складанасці. **КАНСУЛЬТАЦЫІ ПА БУДАЎНІЦТВЕ.** ІП Чарняўскі УНП 691178486. Т. (8-029) 9991011, (8-025) 5333448.*
- Будаўнічыя работы па даступных цэнах. Кладка блокаў, цэглы. Падмурак, дах. ІП Сяляўка А.М. УНП 691175974. Т. (8-025) 9878979, (8-033) 3929490.*
- Бурэнне абісінскіх свідравін (скважын) на ваду. Уладкаванне. Хутка. У любым цяжкадаступным месцы. Дагавор. Гарантыя. ІП Сокалаў Я.В. УНП 691891478. Т. (8-029) 1155222, (8-033) 6339011.*
- Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Янцэвіч А.Р. УНП 590945450. Т. (8-029) 1287878.*
- Выканаю вырабы з мастацкай коўкай: вароты, брамкі, казыркі, парэнчы. Выезд на дом і зняцце памераў бясплатна. ІП Варановіч А.М., УНП 691175298. Т. (8-029) 5355470, (8-029) 2728695.*
- **ВЫКАНАЮ ЎКЛАДКУ І АБЛІЦОЎКУ ПЛІТКІ ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ**. Якасць гарантую. Досвед працы. ІП Леган А.С. УНП 691888682. Т. (8-029) 7709929.*
- Выраб і ўкладка тратуарнай пліткі. ІП Гнюсевіч А.С. УНП 691889691. Т. (8-025) 7712282.*
- Выраб і ўстаноўка міжпавярховых лесвіц з дрэва і жалезабетону. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клаўсюк А.А. УНП 691512274. Т. (8-029) 7792477.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катароў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Дах, заліўка фундаментаў, вагонка, блокхаўс, кладка, аддзелка лазняў, гіпсакардон, ламінат. Наяўны/Безнаяўны. Замер, дастаўка матэрыялу. Па РБ. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*
- **ДАХАВЫЯ, ЗВАРАЧНЫЯ** работы. Дапамога ў выбары і дастаўцы матэрыялаў. ІП Чарняўскі УНП 691178486. Т. (8-033) 6630934.*
- Добраўпарадкаванне месцаў пахавання, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 3469417, (8-029) 5544175.*
- **ДЫЗАЙН ІНТЭР'ЕРА**. Падбор аддзелачных матэрыялаў. Планіроўка памяшкання. Распрацоўка стылявога рашэння. 3Д-візуалізацыя. Камплект чарцяжоў. Працую з любымі аб'ёмамі! Выезд на раён. **ДЫЗАЙН МЭБЛІ**. ІП Круцько Н.А. УНП 691178774. Т. (8-025) 9684543, (8-01771) 21392.
- **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архіваназнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапамога напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*
- **ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш. **АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ГРМ, ланцугоў, рамонт падвескі. **ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691395713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*
- Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*
- Наладка, рамонт піяніна. ІП Іванчын А. С. УНП 691892313. Т. (8-017) 6796026, (8-025) 9343578.*
- **ПАСЛУГІ САНТЭХНІКА.** Устаноўка душавых кабін, водаправод, каналізацыя, ацяпленне. Выезд на раён. ІП Падгорны Д.В. УНП 691888590. Т. (8-029) 9299085.
- Перацяжка мяккай мэблі, рамонт матрацаў, вялікі выбар тканін. ІП Ярашэвіч Е.С., УНП 691861564. Т. (8-033) 9000440, (8-029) 6206260.*
- Печніка. Т. (8-029) 2599940, www.940.by. ІП Ціхановіч А.С. УНП 191091444.*
- Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*
- Рамонт, выраб розных металавырабаў, варот, брамак, лавак, сталоў, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- Распілоўка лесу с выездам да заказчыка – дошка, брус, кроквенная (стропільная) сістэма. Нізкія цэны. ІП Гардзей Е.В. УНП 591700580. Т. (8-029) 6141320.*
- **РЭСТАЎРАЦЫЯ** ўваходных, міжпакаёвых дзвярэй, кухні, мэблі (масіў, ДСП…). ІП Савіцкая А. І. УНП 691892367. Т. (8-033) 6616121.*
- **СПІЛУЕМ ДРЭВА ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*
- Стрыжка кошак і сабак у Маладзечне. ІП Пружан С. М. УНН 690369213. Т. (8-044) 4707113.*
- Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*
- Чыстка падушак, пярын і коўдраў у Маладзечне па вул. Маркава, 16. 3 дастаўкай. ІП Кізіна В.І. УНП 691884753. Т. Вэлком (8-029) 6594293, МТС (8-033) 3730268, Лайф (8-025) 7746321.*
- Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*
- **ЭЛЕКТРАМАНТАЖ. ВІДЗАНАЗІРАННЕ**. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*



# РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- Арматура, сетка для сцяжкі, гідраізаляцыя, труба металічная. Дапамагу з дастаўкай. Т. МТС (8-029) 7737697.*
- Вароты гаражныя, 3600000 руб., ліст металічны, 6 шт. Т. (8-029) 5028269.*
- Сетка рабіца 1,5-1,8 м.в., 50 шт, слупы металічныя. Арматура d 8,10,12 – 1800 м.п., вугалок 40 м.п., труба профільная 300 м.п. Т. МТС (8-033) 6603068.*
- Сетка-рабіца ацынкаваная, вышыня 1,2-1,5 м (12 рул.), слупы металічныя (50 шт.). Дапамагу з дастаўкай. Т. (8-029) 7537679.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

- Бульбакапалка да міні-трактара МТЗ-132 Н, новая, 8 500 000 руб. Т. (8-044) 5543367.*
- Катлы. Печы. Лазні. Бетонамяшалкі. Воданагравальнікі. Помпы. Сантэхніка. Ацяпленне. Культыватары. Сайт 940.BY. ІП Глінскі М.М. УНП 190337652. Т. (8-029) 2599940.*
- Матаблок МТЗ, 1993 г.в., з агрэгатамі і прычэпам, 20 000 000 руб. Т. (8-025) 7894666.
- Трактар Т-16МГ, кап. рамонт, ТА, страхоўка, 30 000 000 руб. Т. (8-029) 6990419.*

**Бытавая тэхніка**

- Газавая 4-канфорачная пліта "Брэст". Т. (8-029) 1101982.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ. РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %. ДАСТАЎКА І ЎСТАНОЎКА БЯСПЛАТНА.** ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. **Т. (8-029) 7627898, (8-029) 3326779.***
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ НТВ + І ТРЫКАЛОР ТВ. АКЦЫІ. РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %. ДАСТАЎКА І ЎСТАНОЎКА БЯСПЛАТНА.** ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. **Т. (8-029) 5702212, (8-029) 9056393.***



- **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, HD.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВАЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД "Тройка", п. 536. ПГУП "Ліцераль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320. *
- Мабільны тэлефон LG-64, новы. Т. (8-044) 7075922.*

**Мэбля**

- 4 новыя табурэткі, 400 тысяч. Т. (8-025) 9663109.*

**Музінструмент**

- **МАГАЗІН МУЗЫЧНЫХ ІНСТРУМЕНТАЎ** прапануе: гітары, скрыпкі, флейты, камбаўзмацняльнікі, сінтэзатары, чахлы і інш. аксесуары. г. Маладзечна, вул. Віленская,12 (будынак атэлье «Бярозка»). ІП Строк УНП 691887699. Т. МТС (8-029) 5064026.*
- Піяніна (чорнае). Т. (8-029) 9734841.

**Жывёла, птушка, пчолы**

- Авечкі маладыя ці абмен на цялушку. Т. (8-025) 7894666.
- Бараны, авечкі, ягняты. Т. (8-029) 6578681.*
- Дамашні маладняк, каза на мяса. Т. МТС (8-033) 6658247.
- Індычаняты 2-месячныя, індакачкі. Т. (8-044) 5592246.
- Конь рабочы, Вілейскі раён. Т. (8-029) 5642857.
- Маладняк і мяса трусоў. Т. (8-029) 7628438.*
- Парасяты віслабрухія. Т. (8-029) 9725063.*
- Свінаматка буйной белай пароды, пакрытая штучна семенем Ландраса. Дзяржынскі раён. Т. (8-0171) 690637, (8-044) 4935142.
- Сялянская гаспадарка рэалізуе авечак, бараноў, маладняк. СФГ "Яснаполле", УНП 691298362. Т. Вэлком (8-029) 1707186.*
- Трусы пароды Бельгійскі велікан і Каліфарнійскай пароды, узрост 1-2 месяца. Валожынскі р-н. Т. (8-044) 4810101, (8-033) 3050152.
- Цялушка цельная. Т. (8-0176) 737798, (8-029) 8605593.*

**Іншае**

- Казырок-навес 1,30x1,0 м, кавалы, новы, нядорага. Т. (8-029) 7779232.
- Каляска дзіцячая прагулачная, 1 год б/у, добры стан, 1 млн. руб, дзіцячая тахта, добры стан, даўжыня 1,73, 1 500 000 руб. Маладзечна. Т. (8-029) 5045977.
- Каляска дзіцячая трансформер, б/у. Т. (8-029) 7083420.
- Кольцы калодзежныя з дастаўкай. Т. (8-029) 6578681.*



- Плітка тратуарная 30x30, 100 м², бардзюр 200 метраў. Т. (8-025) 6845583.*
- **УКАРАНЁНЫЯ САДЖАНЦЫ СТЭВІІ. ПРЫМЯНЯЕЦЦА Ў НАРОДНАЙ МЕДЫЦЫНЕ**. Т. МТС (8-033) 3404867, (8-0176) 503256.*
- **УСЁ ДЛЯ ДАХУ І АГАРОДЖЫ. МЕТАЛАПРАКАТ**, металачарапіца, прафнасціл, труба профільная. Дастаўка, Даступныя цэны. ІП Тышкевіч К.І. УНП 691178470 Т. Вэлком (8-044) 7526450, МТС (8-033) 6357586.
- Халадзільныя вітрыны, тумбы, сігналізацыя, відэаназіранне. Т. (8-029) 8624263.*

## КУПЛЮ

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

- Трактар Т-16, Т-25, Т-40, МТЗ, можна няспраўны, без дакументаў, ці абмен на БМВ-520І, 1989 г. Т. (8-029) 7854034.

**Жывёлу**

- Карову, каня, цялушку. Т. (8-029) 8201331.*
- Карову, каня. Т. (8-029) 7977326.*
- Цялушку ад года ці карову да 5 год, на гадоўлю. Т. (8-025) 7894666.

**Антыкварыят**

- **АНТЫКВАРЫЯТ ДОРАГА! БЕЗ ПАСРЭДНІКАЎ. ВЫЕЗД!** Т. МТС (8-029) 7764214.*
- **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

## ЗГУБЛЕНА

- Хто знайшоў дзяржаўны нумар 6981 IP-5, просьба тэлефанаваць па т. (8-029) 7639480, (8-044) 7639480.

## ІНШАЕ

- Ёсць прапіска. Т. МТС (8-029) 5606607.

# ПРАЦА

## ШУКАЮ РАБОТУ

- Аддзелка дамоў сайдзінгам. Замер, кансультацыя. Дапамога ў дастаўцы. Т. (8-029) 6249371, (8-029) 7629036.*
- Дапамагу напілаваць дровы. Т. (8-029) 9756978.*
- Дахаўшчык шукае працу. Досвед: дах, вадасточка, зварачныя работы, добраўпарадкаванне і інш. Т. (8-025) 5207285.
- Зборка лазняў з бруса. Кансультацыя. Дапамога ў дастаўцы. Т. (8-029) 6249371, (8-029) 7629036.*
- Кладка, дах, бетонныя работы, усе віды тынкавых і малярных работ, сайдынг, пластык і г.д. Т. (8-029) 7583769.*
- Майстар-аддзелачнік зробіць кваліфікаваны еўрарамонт (ад дробнага да пад ключ). Т. (8-044) 5724916.*
- Масажыста. Т. (8-029) 2609392.*
- Праграміста (праграміраванне ў 1С, у DOS, суправаджэнне задач "Улік ОС", "Улік МЦ","Улік ТМЦ і выпіска са склада", "Калькуляцыйная картачка"). Маладзечна. Т. Вэлком (8-029) 145-08-89, МТС (8-029) 263-88-79.*
- Устаноўка скатных дахаў. Кансультацыя. Дапамога ў дастаўцы. Т. (8-029) 6249371, (8-029) 7629036.*

## ПАТРАБУЮЦЦА

- **СЛУЖБЕ ТАКСІ ВАДЗІЦЕЛІ З АСАБІСТЫМ АЎТАМАБІЛЕМ. ТАА "МОЛАЎТА-СЭРВІС" УНП 691518392. Т. ВЭЛКОМ (8-029) 6088643.***
- У Вілейцы прадавец харчовых тавараў у ПТУП «Васторг-Лік». УНП 691168652. Т. (8-029) 3971772.*

ПАЛЯВАННЕ

# Ад жніўня да снежня дазволілі паляваць на птушку

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад 15 жніўня па 13 снежня дазволена паляваць на балотную дзічыну, вальдшнепа, вяхіра, голуба шызага, перапёлку і фазана, таксама вадаплаўную птушку, акрамя гусей.**


Фота birdphoto.ru

Вальдшнеп на балоце.

Паляваць можна на жывёлу любага полу і ўзросту ў светлы час сутак.

Спосабы палявання: ружэйны з засады, з пад'езда з маламерных судоў. Дазволена прымяняць гладкаствольную паляўнічую зброю з выкарыстаннем патронаў, забяспечаных шротам. Можна выкарыстоўваць маламерныя суды без рухавіка альбо з тым, які не працуе. Паляваць можна толькі з гончымі і барзымі сабакамі.

У гэты ж перыяд дазволена паляваць на цецерука любога ўзросту і полу, акрамя самак, якія выводзяць малады птушанят. Дазволена прымяняць гладкаствольную паляўнічую зброю з выкарыстаннем патронаў, забяспечаных шротам. Можна паляваць толькі з легавымі, спаніэлямі, рэтрыверамі.

## Адказнасць за парушэнне правілаў палявання

1. За парушэнне правілаў палявання асобы будуць прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці. Паляванне без належнага дазволу, альбо ў забароненых месцах, забароненых час, альбо забароненымі сродкамі цягне за сабой накладанне штрафу ў памеры ад 20 да 50 базавых велічынь (ад 3 мільёнаў 600 тысяч рублёў да 9 мільёнаў рублёў) з канфіскацыяй зброі альбо без канфіскацыі. Для індывідуальных прадпрымальнікаў – штраф ад 50 да 200 базавых вельчынь (ад 9 мільёнаў рублёў да 36 мільёнаў рублёў) з канфіскацыяй зброі альбо іншых сродкаў палявання альбо без канфіскацыі. Для юрыдычных асоб – штраф ад 500 да 1000 базавых вельчынь (ад 90 мільёнаў рублёў да 180 мільёнаў рублёў) з канфіскацыяй зброі альбо іншых сродкаў палявання альбо без канфіскацыі.

2. За перамяшчэнне (транспарціроўку) альбо раздзелку дзікіх жывёл у выпадках забароненых заканадаўствам пагражае штраф у памеры ад 20 да 50 базавых велічынь, для індывідуальных прадпрымальнікаў – ад 30 да 200 базавых велічынь, для юрыдычных асоб – ад 200 да 100 базавых велічынь.

3. За парушэнне правілаў палявання – штраф да 40 базавых велічынь, для індывідуальных прадпрымальнікаў – ад 20 да 200 базавых велічынь, для юрыдычных асоб – ад 100 да 1000 базавых велічынь.

Тэлефоны даверу: (80176) 778293, (8017) 3900000, (8033) 3336000 (кругласутачна).

**Паводле Кірыла ЧЭБАНА, намесніка начальніка Маладзечанскай міжраённай інспекцыі.**




Фотаздымкі глінабітак у Солах, Маладзечне і маёнтку Асіпаны з кнігі Невяровіча 1930 года.

● КРАЯЗНАЎСТВА

# Мясцовыя помнікі дрэваглiннай архiтэктуры

**Часткова ці поўнасцю зробленыя з зямлі альбо гліны пабудовы складаюць прыкладна 20% сусветна прызнаных помнікаў культуры, якія ўваходзяць у Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.**

Такія прыродныя матэрыялы былі выкарыстаны пры будаўніцтве пірамід Сонца і Месяца ў мексіканскім Тэаціўкане, храмаў і палацаў Старой Гаваны, архітэктурна-паркавага ансамбля Альгамбра ў Іспаніі і шэрагу іншых маляўнічых помнікаў сусветнага дойлідства.

**Па некаторых ацэнках, будынкі, пры ўзвядзенні якіх часткова выкарыстоўвалася гліна, з'яўляюцца жытлом прыкладна трэці насельніцтва нашай планеты.**

## Жытло з гліны – самае экалагічнае

Глінабітнае будаўніцтва лічыцца самым экалагічным. Гліна выдатна рэгулюе вільгаць у памяшканнях, таму ў іх заўсёды захоўваецца камфортны мікраклімат для чалавека. Сцены пабудоў "дыхаюць", добра захоўваюць цяпло зімою, а ў спякоту даюць прыемны халадок. Гліна таксама не дазваляе развіццю цвілі і бактэрый, прыпыняе ўзнікненне мікрабіялагічных забруджванняў.

Як паказала практыка, у такіх хатах людзі практычна не маюць праблем з алергіяй, іх абыходзяць прастудныя захворванні. Сярод недахопаў можна адзначыць нетрываласць сцен пры тутэйшым вільготным надвор'і, калі пры недобраякасным даху пабудова за хуткі час зноў можа ператварыцца ў прыродны матэрыял.

## 200-гадовая гісторыя глінабітных дамоў

У час краязнаўчых вандровак па родным краі і па мясцінах былой Віленшчыны не аднойчы прыходзілася сутыкацца з такімі спецыфічнымі пабудовамі. Яны вабілі і захаплялі старасвецкім каларытам, не надта падобным на штосьці звычайнае і тутэйшае.

Напрыканцы мінулага 20-га стагоддзя гэтыя пабудовы з гліны і дрэва ў большасці ўжо знаходзіліся ў занядбаным стане, пра некаторыя аналагічныя помнікі дойлідства мясцовыя сведкі ўзгадвалі ў мінулым часе і заставалася толькі запісваць успаміны старажылаў. Якім жа ўзрушальным адкрыццём стала знаходка фактаў аб тым, што гэтая забытая і недаследаваная спадчына налічвае амаль двухсотгадовую гісторыю, мае мясцовыя карані, непасрэдна злучана з нашым краем.

## Пабудовы з верасу і гліны на Астравеччыне

Першай узгадкай аб сістэме будавання з сухога галля ці хворасту і гліны стаў артыкул вядомага навукоўца **Каэтана Красоўскага**, які з'явіўся ў 1821 годзе на старонках "Дзённіка Віленскага". Працягам дадзеных напрацовак стаў выхад у Вільні ў 1834 годзе яго працы "Спосаб узвядзення гаспадарчых пабудоў з сухога галля і гліны".

Перавыдадзеная ў 1839 годзе кніга была значна пашырана раздзелам аб пакрыцці будынкаў незгаральным дахам. Апошняе выданне Красоўскага асабліва цікавае тым, што ў ім распавядаецца яшчэ і пра тое, што аўтар працы жыў на Астравеччыне і там жа ўзводзіў свае пабудовы. Ён пісаў: "Мой фальварак у Віленскім павеце Каценавічы ляжыць у двух вярстах ад Полацкага тракта, у 5 вярстах ад Міхалішак і 8 мілях ад Вільні, дзе кожны можа пабачыць пабудовы і пераканацца ў рэальнасці ўсяго, што ёсць тут мною напісана".

Пасля закрыцця ў 1832 годзе Віленскага ўніверсітэта Каэтан Красоўскі пачаў развіваць гаспадарку ў фальварку Кацэнавічы, які перайшоў у спадчыну яго жонцы **Юзэфе** з Пазнякоў. У кароткі тэрмін па таннай тэхналогіі ён узвёў шэраг гаспадарчых пабудоў з верасу і гліны. Такім чынам у 1832 годзе быў пабудаваны бровар, у наступным 1833 годзе – водны млын і аўчарня, а ў 1835 годзе – фальварачная афіцына (памяшканне для прыслужнікаў).

## Сцены за 11 дзён

На ўласным вопыце Каэтан Красоўскі пераканаўся, што і ў нашым клімаце будаўніцтва з гліны мае будучыню, бо з'яўляецца самым танным і простым. Як прыклад такіх пераваг ён прыводзіць факт, калі васьмёра работнікаў з дзявятым майстрам пад яго непасрэдным кіраўніцтвам у 1835 годзе на каменным фундаменце за адзінаццаць дзён вывелі сцены фальварачнай афіцыны.

У сваёй працы Красоўскі сцвярджае, што "не толькі бровары, стайні, вазоўні, аборы, стадолы і хлявы можна будаваць з верасу і гліны, але нават аўстэрыі (буйная карчма) на тракце, жыллё для людзей, фальваркі, афіцыны і г.д.". Па яго метаду сцены ўкладваліся слаямі, чаргуючы верас і гліну. Пры адсутнасці верасу Каэтан Красоўскі раіў выкарыстоўваць любы нізкі куст, галлё вярбы, крывой бярозы, італьянскай тапалі, сасны ці ядлоўцу. На яго думку, матэрыялы з дрэва звязвалі гліну, не дазвалялі ёй празмерна сціскацца і трэскацца, рэгулявалі вільготнасць паветра ўнутры памяшкання.

Гэтая рэкамендацыя замены верасу галлём або ядлоўцам стала ключом для далейшага развіцця новых цікавых канструкцый.

**Уладзімір ПРЫХАЧ,**
**Смаргонь.**
**Заканчэнне будзе.**

● КАЛЯНДАР

## 7 ЖНІЎНЯ

**100 год** таму спынілася выданне газеты "Наша ніва", таму што расійска-нямецкі фронт наблізіўся да Вільні. На той момант рэдактарам газеты быў **Янка Купала**.

**У 1932 годзе** на Астравеччыне нарадзіўся **Адам Мальдзіс** – беларускі гісторык, літаратуразнаўца, пісьменнік, журналіст. Доктар філалагічных навук, прафесар. Аўтар гістарычнай аповесці "Восень пасярод вясны", нарыса "Астравеччына, край дарагі", кнігі "Як жылі нашы продкі ў 18 стагоддзі" і інш.

**20 год** таму пайшоў з жыцця **Максім Танк** (**Яўген Скурко**). Ён нарадзіўся ў вёсцы Пількаўшчына Вілейскага павета, цяпер яна ў Мядзельскім раёне. Беларускі паэт, пісьменнік, перакладчык, грамадскі дзеяч.

## 8 ЖНІЎНЯ

**У 1919 годзе** польскія войскі занялі Мінск у час савецка-польскай вайны.

**У 1926 годзе** нарадзіўся **Аляксандр Надсан** (**Аляксандр Бочка**). Святар, ваяваў у корпусе генерала Андэрса, паранены ў бітве пры Монтэ-Касіна, стваральнік згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі. Заснавальнік і кіраўнік бібліятэкі імя Францыска Скарыны ў Лондане. Увёў у навуковы ўжытак аль-кітабы беларускіх татараў. Вызначыў год выдання "Малой падарожнай кніжкі" Скарыны – 1522. Ведаў дзевяць моў.

**У 1912 годзе** нарадзіўся пісьменнік **Аркадзь Чарнышэвіч**. Працаваў у Свірскай пачатковай школе Мядзельскага раёна.

## 9 ЖНІЎНЯ

**У 1910 годзе** нарадзілася беларуская паэтэса **Ларыса Геніюш**.

## 10 ЖНІЎНЯ

**У 1878 годзе** нарадзіўся **Еўсцігней Міровіч** (сапр. – **Дунаеў**). Беларускі драматург і тэатральны рэжысёр. Напісаў і паставіў п'есы "Машэка", "Кастусь Каліноўскі", "Каваль-ваявода".

## 11 ЖНІЎНЯ

**У 1856 годзе** нарадзіўся беларускі этнограф і краязнаўца **Уладзімір Дабравольскі**.

**У 1858 годзе** нарадзіўся нідэрландскі доктар **Хрысціян Эйкман**, які атрымаў Нобелеўскую прэмію за адкрыццё вітамінаў.

## 12 ЖНІЎНЯ

**У 1851 годзе** амерыканскі вынаходнік атрымаў патэнт на вынаходніцтва швейнай машыны.

**Падрыхтавала**
**Зоя ХРУЦКАЯ.**


Часлаў Станіслававіч трымае дзвюх дачок: Алесю (злева) і Таню.


Галіна Іванаўна абдымае дачок: Таню (злева) і Алесю.


З Дзімам Абідам падчас навучання ў Маладзечанскай прафесійна-тэхнічнай вучэльні №21.

# Як разгледзелі талент у пацанцы, што і надзявала "крутым дзеўкам" сметні

МАЛАДЗЕЧНА

**Як толькі ў дзяцінстве яе не называлі: сарві галава, вар'ятка, пацанка. Гэтая дзяўчына магла і па ілбе трэснуць, і ў нос даць пры патрэбе. Цяпер яна не такая гарэза, як раней. Вучыць дзяцей ва ўласнай студыі спяваць і выступаць на сцэне.**

– Хаця б папераступай з нагі на нагу, а то дрыгаеш адной, быццам у цябе нервовы цік, – **Алеся Кульша** паказвае вучаніцы, як лепш рухацца на сцэне. – Будуць аб'яўляць: "А цяпер выступіць Надзея Дрыг-дрыг!" Ну што ты як камень? Усё ж выдатна: прыгожая, спяваеш добра. Заданне дадому: адпрацаваць перад люстэркам рухі.

Вучаніца ад такіх моцных метафар згінаецца ад смеху ледзь не напалову.

– Не ўсе разумеюць мой гумар. Часам досыць чорны. Некаторыя крыўдзяцца, тады прашу прабачэння, – тлумачыць Алеся.

## Частка 1. Дзе Алеся расказвае, як паміралa ў градах, як прыкінулася тхаром і як наелася суседскіх вішань

У дзяцінстве Алеся разам з малодшай сястрой **Таняй** часта праводзілі лета ў вёсцы Домантавічы на Капыльшчыне. Гасцілі ў бабулі і дзядулі.

– Ненавідзела палоць грады. То лягу і паміраю: "У мяне сонечны ўдар, ратуйце!" То ў мяне жывот забаліць, адпрашуся ў ваду папіць, і да вечара мяне няма. Бабуля тады шукае: "Дзе дзелася гэная памочніца?" А я сплю сабе. Памятаю, бабуля штосьці не дазволіла зрабіць, і я "пайшла тапіцца" на рэчку. А сама – на вышкі з кацянятамі. Уся вёска мяне шукае, бабуля п'е валідол з валяр'янкай. А я закапаюся ў сена і сплю. Пад канец дня выпаўзла – ецці захацела. Атрымала тады..., – крывіцца спявачка, мабыць, убачыўшы як зараз той наганяй.

Такіх гісторый у Алесі хоць адбаўляй. З фантазіяй і вынаходніцтвам у яе ніколі не было праблем.

– У дзяцінстве вельмі любіла піць сырыя яйкі. Яны ў той час былі ў дэфіцыце. Бабуля хоць і мела сваіх курэй, выдавала мне па адным у дзень, – распавядае Алеся. – У мяне думкі: "Блін, скваліная". Вырашыла браць іх з-пад курыцы. Іголкай рабіла дзірачку і піла праз саломінку. Потым пустыя яйкі клала назад. Бабуля неяк увечары пайшла збіраць, вяртаецца і кажа дзеду: "Іванка, завёўся тхор, паеў яйкі". "Валя, не можа быць". "Палянь, пустыя". Потым "тхор" залез туды, куды адназначна не мог: у каструлю, дзе хавалі яйкі. Тады дзядуля прасачыў за мной і, аднойчы ўбачыўшы ў куратніку, паклікаў бабулю: "Ідзі, Валя, палянь, які там тхор". А я сяджу, смакчу сабе. Куры ўжо прывыклі, як сваю прымалі.

У такога кшталту фокусах нярэдка бралі ўдзел і іншыя дзеці. Побач з Алесяй і Таняй у вёсцы жылі **Лена** і **Оля**. Розніца ва ўзросце ў іх была тая ж самая: чатыры гады. Пакуль дзядуля з бабуляй былі на працы, дзяўчаты прыдумалі вось што.

– У бабулі каля хлява, дзе свіней гадавалі, расла шыкоўная суседская вішня. Доўгія месяцы я хадзіла вакол, чакала, калі ягады саспеюць. Аднойчы, калі нікога не было дома, мы палезлі на гэты дах. Малых, Олю і Таню, адправілі дзяжурыць на выпадак, калі бабуля раптам вернецца. Яны нам знізу: "Дайце і нам". А мы: "Чакайце, зараз наядзімся, тады вам спусцім". Раптам прыспічыла ў прыбіральню. Тут жа на даху ўсе справы парабіла. Ленцы захацелася. Кажу ёй: "Навошта спускацца і потым назад паднімацца, давай тут". Ленка ўжо запраўлялася, калі паслізнулася і паляцела наўпрост на свінню. Ухапілася за яе. Тая па коле носіцца. Ленка з ёй у абдымку, пакуль свіння не скінула яе ў яму, куды ўвесь гной зграбалі. Там глыбіня – метра паўтара. Тады я атрымала нагаляй за ўсіх. У мяне было два тыдні дамашняга арышту, а Ленку два тыдні адмывалі ад паху. Пасля таго нам больш ні вішань не хацелася, нічога. І вось цікава, што і свае ж былі, але не. Трэба быў адрэналін, гульня.

## Частка 2. Як шантажавала сястру і як насунула дзёрзкім дзяўчатам сметніцу на галаву

Так ужо склалася, што Тані часта даставалася за няўседлівую сястру. Цяпер Алеся шкадуе, што так абыходзілася. А тады...

– Бывала, тата адпраўляў Таню паклікаць мяне дамоў. А як жа я пайду, калі ўсе гуляюць? Казала: "Так, малая, скажы тату, што ты мяне не знайшла". "Алеся, атрымаю ад таты". "Ну ты выбірай ад каго: ці ад таты, ці ад мяне". Малая думала: "Якая мне розніца ад каго?" Прыходзіла дамоў і казала: "Тата, я яе не знайшла". Хаця атрымаць павінна была я. Але калі прыходзіла, казала, што Таня мяне знайшла. І яна атрымлівала за тое, што схлусіла.

У школе Алеся магла пастаяць як за сябе, так і за іншых.

– Бандыцкі час, 90-я гады. У клас заходзілі "крутыя" дзяўчаты. Хто грошы збірае, хто што. Спачатку паспрабавалі мяне крануць, але адна сышла са сметніцай на галаве, а другая – са скрыняй. Больш мяне не чапалі. Казалі: "Яна вар'ятка, яшчэ заб'е". Заўсёды стаяла за сябе і за тых, хто не мог за сябе пастаяць.

Часам біцца даводзілася не толькі з дзяўчатамі, але і з хлопцамі.

– Любіла ставіць на месца "крутых" пацаноў. Чаму яны лічаць сябе вышэй за кагосьці? Мы ўсе на адным узроўні. Перад богам бомж і начальнік роўныя. Людзі самі сабе статусы прыдумляюць. Няма і не можа іх быць. Кожны чалавек павінен ісці з дабром. Для мяне чым прасцей, тым лепей.

## Частка 3. Як замест баяна наярвала кругі вакол школы і як маці не карміла, калі дачка не стала працаваць на будоўлі

На баян Алесю ўзялі яшчэ ў чацвёртым класе. Для заняткаў бацька набыў дачцэ інструмент.

– Але хадзіла я не больш за два месяцы. Пасля ў час гэтых заняткаў наярвала кругі вакол школы. Напружвала сальфеджыа. Потым здарыўся бацькоўскі сход. Прыйшоў тата, а яму кажуць: "У вас настолькі таленавітае дзіця! Шкада, хварэе вельмі". Тата: "Як хварэе? Кожны дзень ходзіць у школу! Я плачу, а яна "хварэе"!". Ён тады ў мяне запытаўся, ці хачу я хадзіць. Ад баяна адмовілася.

Як кажа Алеся, яна нарадзілася ў цяжкі час. Бацькам было больш важна пракарміць дзіця, чым адшукаць ягоныя таленты.

– Я ніколі не думала, што неяк па-асабліваму спяваю. Калі мне было гадоў 16, мы з дзвюма сяброўкамі **Ірамі** на прыпынку пад гітару спявалі. Людзі не праходзілі міма, спыняліся, слухалі. Падыходзілі да мяне, казалі: "Вы так цудоўна спяваеце, у вас такі голас!". Я здзіўлялася: "Што, сур'ёзна?". Спявалі Уітні Х'юстан, Агату Крысці, "Ліцэй", "Чиж и Ко", "Чайф". Напрыклад: "Бутылка кефира, пол батона".

Пасля дзявяці класаў школы Алеся паступіла ў тагачасную Маладзечанскую прафесійна-тэхнічную вучэльню №21 на тынкоўшчыцу.

– Мама сказала: "Ідзі!" Алеся сказала: "Так!" Ніхто не ўяўляў, што я магу спяваць. Вечная сарвігалава. Казалі: "Ты як хлопча". Так што калі я заспявала, усе былі ў шоку.

У час вучобы спявачка трапіла ў хор да **Іосіфа Сушко**, дзе напачатку яе здольнасці асабліва ніхто не заўважыў. Але праз нейкі час яна стала салісткай.

Наступным крокам у кар'еры было праслухоўванне на вакальным конкурсе паміж ПТВ. Алеся была ўжо на трэцім курсе.

– Так атрымалася, што ў гэты час каля актавай залы праходзілі **Тамара Дудзіч** і **Гена Пшэнік**. Я якраз з **Эдзікам Абрамовічам** займалася, маім першым выкладчыкам вакалу. Пачулі, пытаюцца: "Што там за музыка?". "Дзяўчына адна спявае". "Дзяўчына?!" Яны думалі, што магнітафон уключаны. Заходзяць, слухаюць і вырашаюць, што трэба мяне на конкурсы адпраўляць. Эдзік мяне рыхтаваў. Першую мінусоўку мне запісалі **Лёнька Пілецкі** і **Сярожа Янушкевіч**.

Пасля заканчэння вучэльні спявачку размеркавалі на будоўлю.

– Я і месяца не пратрымалася, сышла. Пайшла дыскі прадаваць. Калі загадчык аддзела культуры райвыканкама **Аляксандр Рамановіч** дазнаўся, схапіўся за галаву: "Якая будоўля, Алеся? Што за прыдумкі? Паступаць!" Так што спачатку мяне перавялі ў Радашкавіцкі клуб працаваць, а потым я паехала паступаць. Маці, як дазналася, што я звольнілася з будоўлі і збіраюся паступаць, доўгі час не карміла. У мяне дома аб'явілі байкот. Але я не парылася, усё роўна ела, пакуль бацькі на працы былі.

## Частка 4. Як выкладчыкі пакідалі цыгарэты і прыбеглі слухаць Алесю

Паступаць спявачка вырашыла ў Гродна. На праслухоўванне разам з ёй прыйшло 60 чалавек, так што Алеся, яшчэ без досведу, забілася ў кут і вырашыла ў першых шэрагах не ісці. Так і даседзела да 59 чалавека.

– У галаве: куды я прыехала? Навошта? Усе так добра спяваюць, каму я тут патрэбная? Выходзяць выкладчыкі. **Зоя Іванаўна** кажа: "Саня! Пойдзем папалім". Галава, мабыць, распухла: столькі людзей праслухаць! Са спадзяваннем пытаецца: "Там ужо нікога няма?". "Не, яшчэ адна дзяўчынка". Яна да мяне: "Ідзі стаў касету, спявай". Я пачала спяваць, яны пакідалі свае цыгарэты, забягаюць. Сашка да магнітафона кінуўся. Зоя Іванаўна вочы расплюшчыла: "О! Саш, ты чуеш?" А я думаю ўсё, капец. Даспявала, пытаюся: "Што, не так штосьці?". Яна: "Ідзі сюды. Што ты заўтра робіш?" Я кажу: "З раніцы ў мяне курсы...". "А ўвечары?". "Нічога". "Так, заўтра вечарам на канцэрт з намі едзеш".

І да мяне дайшло, што з 60 чалавек мяне адну на канцэрт узялі.

Якраз пасля гэтага канцэрта ў артысткі пачаўся час знаёмства з самымі рознымі талентамі.

– Я тады пазнаёмілася з **Сашам Зявровічам** зямля яму пухам. Неверагодны вакаліст! **Светачкай Скольш**, цяпер кіруе студыяй. Ачумелая вакалістка. **Светкай Калошай**, якая цяпер Святлана Стракалава, вакалістка. Яна выкладае ў каледжы мастацтваў у Гродне. **Сашкам Яфімікам** (Немо), **Сярожам Квашніным**. Яны мяне неяк прынялі ў сваю "сям'ю".

У гэты ж час пачаўся шэраг конкурсаў. З "Зорнай ростанню" ў спявачкі звязаная асобная гісторыя. На конкурс Алеся прыехала ў Мінск.

– Здымкі былі першага красавіка. Спявала "Пад белым пухам вішні". І штосьці мне клін увайшоў, словы забывала. Праспявала раз, мне: "Давай спявай па-новай". А я не магу, забываюся. Давай выдумляць свае словы. А-ля "тэкст **Максіма Багдановіча** і Алесі Кульшы". Карацей, насачыняла. Гляджу, не спыняе ніхто. Думаю: значыць, пойдзе. А так хацелася трапіць дамоў да мамы на боршч яе смачны! Якраз на апошнюю электрычку да Маладзечна паспявала. Сумкі сабрала, шапку напяла, шубу апранула. І тут Сашка Яфімік заляатае: "Кульшуння! Куды ты сабралася? Там цябе ўсе шукаюць. Ідзі пераспявай, што ты там насачыняла на здымках?" А я яму:


З аднагрупнікамі падчас навучання ў Гродзенскім каледжы мастацтваў імя Алаізы Пашкевіч.


Вечарынка падчас навучання ў Гродзенскім каледжы. Алеся зверху справа.


Адпачынак у парку ў Германіі. Усе фота з верхняга шэрагу забяспечаныя Алесяй КУЛЬШОЙ.

# крала яйкі
# цу на галаву

"Яфім, адвалі. Я знаю, што ты зноў жартуеш, не пайду. Я ўжо сабралася на электрычку. Нармальна і так". Тут залятае Зоя Іванаўна: "Так, Кульша, я не зразумела! Цябе ўсе шукаюць!" Кажу: "Ё-маё, Яфімік, даруй! Я думала, што першае красавіка". Мы ж увесь час "хі-хі, ха-ха". Паскідала рэчы, спела. Крыху перабылтала словы, але ва ўсялякім разе не свае, а Багдановіча. Але выгляд мой на запісе... Прычоска, не папраўленая пасля сцягвання шапкі, жахлівая. У галаве ж толькі адно пульсавала: "З'едзе апошняя электрычка, і ты паедзеш назад у Гродна". Калі потым пraглядалі запіс, мне казалі: "Ты ці то на Лаліту падобная, ці то на Сцепаненку, жонку Петрасяна".

## Частка 5. Пераломны перыяд, калі Алеся разумее, дзе белае, а дзе чорнае

Алеся гаворыць пра Гродна, а на вачах у яе – слёзы.

– Гэта таму, што было класна. Усіх людзей памятаю з таго часу ў маім жыцці. Аднакласнікаў – не ўсіх. З вучылішча – таксама не ўсіх. А перыяд Гродна… Да яго было адно жыццё, калі я паводзіла сябе няправільна. Пасля – іншая прыступка. Пачалося самаразвіццё. Калі разумееш, што мацюкацца, лаяцца не трэба, так не павінна быць у жыцці. Нагрубіяніць, таму што проста не падабаецца чалавек… Да гэтага я магла так зрабіць. Паводзіла сябе як іншыя – стадны інстынкт.

– Гродна шмат чаму навучыла, – працягвае артыстка. – Што кожны чалавек – гэта свой свет. Кожны па-свойму цікавы. Кожны апранаецца так, як ён хоча альбо як можа. І што па вопратцы судзіць нельга. Можна быць багатым, але багацейшы той, хто напоўнены духоўна. З разумным чалавекам хочацца гутарыць. А што з таго, што хтосьці кідаецца грашыма? Забяры ў яго грошы, што тады? Без іх ён нецікавы, ніхто.

**– Алеся, якую б адну памылку выправіла ў жыцці?**

– Я б вярнулася ў той час, калі паступала ў Гродна. З таго моманту ўсё пайшло б па-іншаму. Гэта быў класны час, і мая вялікая памылка ў тым, што з'ехала адтуль. Мяне запрасілі на заробкі ў Германію. Кроў маладая, іграе, бурліць, таму пагадзілася. Для гэтага і вярнулася ў Маладзечна, але далей так і не склалася. На грошы збіралася ехаць, на славу. А ў выніку што? Я не скажу, што нешчаслівая, наадварот – вельмі шчаслівая. Проста магло быць інакш. Ну і, вядома, дзеці мае. Я не бачу сэнсу ў жыцці без іх. Яны цяпер на лецішчы адпачываюць – сумую жудасна. Не ўяўляю жыццё без **Яны** і **Міраслава**. Гэта самае лепшае, што ёсць у мяне.

## Частка 6. Пра сына і дачку, якая не проста "сарвігалава", а разумная "сарвігалава"

Старэйшай Яне цяпер сем гадоў, Міраславу – чатыры.

– Малая на скрыпку пойдзе. Вучыцца ў гімназіі-каледжы мастацтваў. Сама выпрашыла. Сказала: "Які прыгожы інструмент! Як добра іграе!" Падобна, буду дома вар'яцець.

Але спявачкай яна быць не хоча. Пакуль што прагне стаць мадэльерам-дызайнерам.

– Яна вельмі разумная дзяўчынка, мэтанакіраваная і ўпартая. Не такая, як я. Яна хітрэйшая за мяне. Таксама сарві галава, але разумная. Робіць учынкі вельмі прадумана. Але ж я пралічваю ўсё на некалькі крокаў наперад. Я, калі малая была, думала, адкуль дарослыя могуць ведаць? Цяпер разумею: самі былі такія самыя. Вось і дачка пытаецца: "Мама, адкуль ты ведаеш?" "Ведаю". То яна цяпер кажа: "Мама ў мяне варажбітка: усё ведае, усё бачыць, варожыць". Я ківаю галавой: "Варажу, усё бачу". Ну а малы ў мяне спявае. Я рэпеціраю што-небудзь дома, ён за мной паўтарае.


Настасся РОЎДА
nastya.rovdo@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

## Дадатак. Рознае
## Пра алкаголь

– Ніяк не ўспрымаю тых, хто зацята п'е. П'юць не таму, што прымушаюць, а таму, што слабакі. Алкаголь – непатрэбнае ў жыцці. Можна выпіць крыху каньячку, піва ў добрай кампаніі – "для весялухі".

## Пра зорнасць

– Хто прыдумаў гэтыя "зоркі"? Зоркі на небе. А мы людзі. Проста ў кожнага свая прафесія. Бывае, робіш чалавеку шмат добрага, а ён не бачыць. Калі адмаўляеш наўпрост, кажа: "Кульша памянялася, зорка ў ілбе". Я не бачу сэнсу кантактаваць з такімі. Навошта? А так люблю ўсіх людзей.

## Пра адпачынак

– Люблю вёску. З задавальненнем там бы і жыла. Раней для мяне гэта было далёкае, незразумелае. Цяпер наадварот цягне. Прачынаешся ў вёсцы, а там такое паветра! Лісцікі, траўка. Нават калі дождж. Ідзеш і атрымліваеш асалоду ад таго, што так цудоўна.

## Пра жыццё

– Бог даў нам жыццё, і мы жывём. Не важна, якое яно. Мы абавязаныя яго прайсці, як бы складана не было. Не бывае бязвыхадных сітуацый, калі ты не пад вечкам труны.

## Пра кнігі

– Мне хацелася б шмат чытаць, але цяпер не атрымліваецца. У дзяцінстве любіла бібліятэку ў вёсцы. Прыходзіла, каб падыхаць кнігамі і набраць кіпу казак. Чытала, як ела. І цяпер так чытаю. Толькі амаль не ем – няма калі.

## Пра маляванне

– Малюю. Раблю рамонт у кватэры. На днях першы раз шпаклявала, грунтоўку наносіла. Збіраюся эскіз намаляваць на сценах. На лецішчы з сястрой дом размалявалі. Калі б хадзіла ў мастацкую школу, можа і ў мяне штосьці атрымалася б.

## Пра гатаванне

– Гатаваць люблю, асабліва мяса і булкі. Толькі не цеста мяшаць – доўга.


*Алеся Кульша: "Джаз – гэта тая музыка, якую ўвогуле чапаць нельга. Я сама як джаз"*

Фота Настассі РОЎДЫ.

**Даведка "РГ". Алеся Кульша.** Нарадзілася ў Маладзечне 25 студзеня 1980 года. Вучылася ў СШ №11. Пазней – у Гродзенскім каледжы мастацтваў імя Алаізы Пашкевіч. Працавала ў Гродне салісткай джазавага аркестра. Маці **Галіна Іванаўна**, бацька **Часлаў Станіслававіч** працавалі ў будоўлі. **Дыпломы.** Лаўрэат конкурсу "Белазаўскі акорд", заваявала Гран-пры Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні "Маладзечна-2007", Гран-пры рэгіянальнага фестывалю-конкурсу маладых выканаўцаў эстраднай песні "Адна зямля" і іншыя.

СПАБОРНІЦТВЫ

# На брусах адціскаліся дужыя хлопцы і дзяўчаты на абцасах

СМАРГОНЬ

**У Смаргоні прайшоў першы воркаут фестываль.**

Наймацнейшых спартсменаў па воркауце (фізкультура на турніках і іншых канструкцыях) з усёй краіны сабрала Смаргонь 1 жніўня. Тут прайшоў "Першы Смаргонскі воркаут фестываль". Прынялі ў ім удзел 18 спартсменаў – са Смаргоні, Вілейкі, Мінска, Гомеля.

– Смаргонь выбралі невыпадкова, – расказаў каардынатар руху Стрыт воркаут у Смаргоні **Аляксей Мычко**. – Нашы спартсмены заўсёды ўдзельнічалі ва ўсіх спаборніцтвах і Смаргонь зарэкамендавала сябе як горад з моцнымі спартсменамі. Да таго ж у нас адкрылі адну з першых спецыялізаваных пляцовак для воркаута.

Якраз на гэтай пляцоўцы хлопцы выяўлялі лепшага ў дзвюх дысцыплінах – дваябор'і і фрыстайл баттл. Адцікаліся на брусах, падцягваліся на турніках з дадатковай нагрузкай, паказвалі найскладанейшыя сілавыя практыкаванні.

Найлепш з прадстаўнікоў рэгіёна выступіў смаргонец **Павел Кірмель**. Ён заняў другое месца ў фрыстайл батле, перамогшы моцных атлетаў.

– Мне як суддзі запомніўся фрыстайл баттл, – кажа Аляксей. – Кожны спартсмен спрабаваў здзівіць і вылучыцца мацней, чым апанент. Гэта вельмі відовішчна і непрадказальна. Думаю, гледачам было таксама цікава за гэтым назіраць. Мяркуючы па водгуках, вельмі спадабаліся паказальныя выступленні смаргонскай каманды па воркауце Action team – гэта было відовішчна і вельмі прыгожа.




Дзяўчаты спрабавалі адцікацца на брусах.

## У фестывалю будзе працяг

Спадабалася Аляксею, што было шмат гледачоў, і яны падтрымлівалі і хварэлі за спартсменаў:

– На спаборніцтвы прыйшлі паглядзець людзі розных узростаў. Гледачы заўзята падтрымлівалі сваіх землякоў і не толькі.

Гледачы таксама актыўна ўдзельнічалі ў конкурсах. Дзеці дзяліліся на каманды і паказвалі хто на што здольны: танцавалі, адцікаліся ад падлогі, прысядалі. А гледачы выбіралі лепшую каманду. Дзяўчаты адцікаліся на брусах (хто і на абцасах быў).

– Пакуль сярод дзяўчат гэта не вельмі распаўсюджаны спорт, але мы ўсяляк папулярызуем яго. Тлумачым, што воркаут даступны як для хлопцаў, так і для дзяўчат.

Спытаў, ці будзе працяг фестывалю:

– Безумоўна. Паглядзелі, як прайшоў фестываль у гэтым годзе, абавязкова правядзем і ў наступным.



Алесь ВЫСОЦКІ
E-mail: alvy@tut.by

## Загінуў Уладзімір Сіроцін, удзельнік экспедыцый па Віліі

**1 жніўня з'явілася сумная навіна аб смерці 64-гадовага беларускага альпініста. Ён загінуў на гары Джангітау ў Кабардзіна-Балкарыі.**



Гэта быў наш сябар, шматразовы ўдзельнік экспедыцый па Віліі шляхам Тышкевіча Уладзімір Сіроцін.

Вядомы у краіне, моцны і дасведчаны, ён быў душой кампаніі. Адным з тых, да каго цягнуцца нават незнаёмыя людзі. Віртуозна валодаў гітарай, меў добры голас, хораша выконваў песні, ведаў іх сотні – на беларускай, рускай, украінскай, польскай мовах.

Ён спяваў нават у байдарцы. Любіў не толькі саліраваць, але спяваць калектыўна, разам з сябрамі. Па яго ініцыятыве, у час сплаву па Літве ў 2008 годзе, усе плывучыя сродкі (каля 30 байдарак і катамаранаў) перад населеным пунктам выстраіваліся ў адзін шэраг, ад берага да берага, і з песняй уваходзілі ў населішчы Павілля: Буйвіды, Немянчын, Веркі. Апошні раз мы з ім сустракаліся ўсяго месяц назад, 4 чэрвеня, падчас сплаву, на беразе Вяллі каля Мамаеў, дзе была першая начоўка.

У гэты ж дзень ён паехаў на Каўказ, плануючы вярнуцца дадому 4 жніўня…

Удзельнікі сплаву шчыра спачуваюць сям'і і блізкім загінулага альпініста.

**По даручэнню сяброў, Міхась МІХАЛЕВІЧ, удзельнік сплаваў шляхам Тышкевіча.**

НАВІНЫ

## "Смаргонь" сустрэнецца у 1/8 фінала з "Тарпеда-БелАЗ"

СМАРГОНЬ

Футбольны клуб "Смаргонь" 1 жніўня дома прымаў "Ліду". Гэта быў матч у адказ 1/16 фіналу Кубка Беларусі. У першым матчы смаргонцы зрабілі добры задзел, выйграўшы 2:0.

У дамашняй сустрэчы яны вызначыліся першымі: гол на 16 хвіліне забіў Ігар Крывабок. Праз дваццаць хвілін лідчане адыграліся.

Потым яшчэ двойчы "Смаргонь" выходзіла наперад – забівалі **Аляксандр Таўканіца** і **Аляксандр Дзегцяроў**. Але "Ліда" штораз зраўнівала лік. Матч і закончыўся ўнічыю 3:3.

"Смаргонь" стала адным з двух клубаў першай лігі, якія прабіліся ў наступную стадыю кубка.

Смаргонцы ўжо ведаюць свайго саперніка. Лёсаванне 1/8 фіналу Кубка Беларусі адбылася 4 жніўня ў сталіцы. "Смаргонь" згуляе з клубам "Тарпеда-БелАЗ" з Жодзіна. Гульні адбудуцца 21 лістапада (ў Смаргоні) і 29 лістапада (у Жодзіне).

## "Ашмяны" не здолелі выйсці ў 1/8 фіналу

АШМЯНЫ

Перашкодзіў ім клуб з вышэйшай лігі – "Граніт" з Мікашэвічаў.

Футбольны клуб "Ашмяны" 1 жніўня праводзіў у гасцях матч у адказ 1/16 фіналу Кубка Беларусі. У першым матчы "Ашмяны" прайгралі 1:3.

У гасцях яны павялі ў ліку: на 21-й хвіліне гол забіў Вішняк. Аднак і найменшая інтрыга знікла ўжо ў першым тайме, калі ў вароты "Ашмянаў" уляцелі два галы. Яшчэ тры "Граніт" забіў у другі тайме. Вынік: паражэнне "Ашмянаў" 1:5.

## "Каб вы так заўжды гулялі, то маглі б і чэмпіёнамі быць"

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

"Вілія" з Вілейкі пасля трох паражэнняў у чэмпіянаце Мінскай вобласці па футболе атрымала перамогу. Дома 2 жніўня вілейчане сустракаліся з "Нёман-Агра" са Стаўбцоўскага раёна і выйгралі 3:1.

– За кошт чаго ўдалося перарваць крыўдную серыю пройгрышаў? – спытаў у прадстаўніка "Віліі" **Алега Гулевіча**.

– Шэраг нашых гульцоў вярнуліся з адпачынку ці аднавіліся пасля траўмаў. Ды і сабраліся ўсе, сур'ёзна пагутарылі, што хопіць ужо прайграваць.

Напачатку першага тайма дамінавалі госці. І гол забілі першымі. А потым гульня ў вілейчан пайшла лепш, многае стала атрымлівацца – асабліва ў другім тайме. У ім вілейчане забілі тры галы: двойчы вызначыўся **Аляксандр Грыхуцік**, і адзін раз – **Віктар Сяліцкі**.

– Заўзятары падыходзілі пасля матчу, дзякавалі. Так ім спадабалася гульня нашай каманды ў другім тайме. Казалі: "Каб вы так заўжды гулялі, то маглі б і чэмпіёнамі быць", – дзеліцца Алег.

## "Вілія" ўзнялася ў турнірнай табліцы на пятае месца

У Чысці сустракаліся мясцовая "Забудова-Буд" і ДЮСШ-4 з Маладзечна. Гаспадары перайгралі маладзечанцаў 2:1. У іх галамі адзначыліся Працкевіч, Ахрамовіч, у маладзечанцаў – Альховік.

Нягледзячы на паражэнне, ДЮСШ-4 захавала трэцяе месца, каманда з Чысці ўзнялася на восьмае.

## Каманды з Мядзельшчыны і Вілейшчыны спаборнічалі ў пляжным валейболе

МЯДЗЕЛ

У Мядзеле 25 ліпеня адбыўся адкрыты чэмпіянат раёна па пляжным валейболе.

На пляцоўцы на гарадскім пляжы гулялі каманды з Мядзела, Свіры, Занарачы, Даўгінава і Вілейкі.

Сярод дзяўчат узростам да 20 год перамаглі мядзяльчанкі **Лізавета Карабейнік** і **Ксенія Малевіч**. У юнакоў лепшымі сталі **Ілля Гуцаў** і **Аляксей Фарына** з Мядзела.

Ва ўзроставай групе 20-39 год мацнейшымі былі Міхаіл Касцевіч і Яўген Маліноўскі з Вілейкі. У групе 40 год і старэйшых першае месца заняла каманда ВітМа-2007 у складзе **Анатоля Байко** і **Віталя Томкавіча**, расказаў намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму Мядзельскага райвыканкама **Леанід Шыдлоўскі**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ВІДЭА ТЫДНЯ

# Як маладзечанцы пазнавалі выбітных асобаў




Глядзіце відэа "Рэгіянальнай газеты" на сайце rh.by.

МУЗЫКА

# Віталь Качаткоў прадставіў песню па матывах вершаў Купалы

МАЛАДЗЕЧНА

Спявак з Маладзечна, які працуе ў жанры шансон, звярнуўся да класікі беларускай паэзіі.

Новы альбом Віталя Качаткова завецца "Абнімі мяне", паведамляе tuzin.fm.

Выканаўца кажа, што напісаў новы твор па матывах вершаў **Янкі Купалы**. Запісам, звядзеннем і майстарынгам займаўся **Генадзь Сыракваш**, а аранжыроўку зрабіў **Іван Чэбанаў** з Малдовы.

– Пасля таго, як я запісаў свой трэці альбом і прапрацаваў каля паўсотні песень на вершы розных аўтараў, то адчуў у сабе сілы пісаць і свае тэксты – распавядае выканаўца. Віталь Качаткоў.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота kochetkoff.com.

# Камент-эксперт

Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

**ТОП-10 твораў ад паэта Міколы Шабовіча, якія дазволяць адчуць сябе беларусам**

Каб адчуць сябе беларусам, трэба, каб цэнтральныя і іншыя вуліцы, установы, напрыклад у гэтым самым Маладзечне, мелі найменьне ў гонар знакамітых беларускіх суайчыньнікаў, а не славілі вядомых нам ўсім манкуртаў, што прыйшлі ў Беларусь, каб знішчыць ды зганьбіць усё беларускае. Я адчуваў бы сябе беларусам, каб у Маладзечне гандлёва-эканамічны каледж быў носьбітам імя яго-нага заснавальніка – Барыса Уладзіміравіча Кіта – сусветна вядомага навукоўца...

...Я адчуваў бы сябе беларусам, каб у Маладзечне плошча перед тэхнікумам была не Ульянава (Леніна)(...),а нашага знакамітага земляка, песняра зямлі беларускай – Янкі Купалы, які насамрэч нарадзіўся побач з Маладзечнам, у Вязынцы. Гэта і ёсьць адно з ТОП-10, каб адчуць сябе беларусам. ***NPraw.***

**Віталь Качаткоў прадставіў песню па матывах вершаў Купалы**

Цудоўна, толькі чаму "абнімі", калі ёсць беларускае слова "абдымі", "абдымкі" і г.д.? ***Алекс.***

**У маладзечанскім парку хтосьці скінуў лавы ў ваду (Фотафакт)**

Што за бясчынствы? Знайсці і пакараць, і прымусіць весь газон фарбаваць, калі энергія прэ. ***Малыш з Гелянова.***

**Дзядуля на роліках з Маладзечна ўпершыню дае інтэрв'ю – без словаў**

Засталося толькі чэла з чалмой на галаве і босага знайсці. ***Sh@m@n.***

Ваааау, класна як! Малайцы Зоя і Настасся, цікавы "фармат" інтэрв'ю)) акурат для такога загадкавага чалавека. Класны чэл!!! ***Smart.***

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 8 | | | | | 9 | | 2 |
| 3 | 5 | | 4 | | | | | 8 |
| 2 | | | 1 | | 9 | | | |
| 9 | | | 5 | | 2 | | 8 | |
| | | | | | | | | |
| | 1 | | 3 | | 7 | | | 5 |
| | | | 2 | | 3 | | | 4 |
| 5 | | | | | 4 | | 6 | 1 |
| 8 | | 3 | | | | | 2 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Мультфільм, дзіцячы "**Какоша – маленькі дракон**", 3D (Германія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
8 жніўня – у 14:00
9 жніўня – у 12:50
10 жніўня – у 16:30
Цана білета: 15 000 рублёў

Баявік, фантастыка, камедыя "**ПІКСЕЛІ**", 3D (ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
7, 8, 11 жніўня – у 18:00
9 жніўня – у 14:40
12 жніўня – у 16:00
Цана: 45 000-55 000 рублёў

Дэтэктыў, трылер, фантастыка "**Па-за сабой**" (ЗША, 2015, пасля 16 год)
9 жніўня – у 17:00
Цана білета: 45 000 рублёў
Жахі, трылер "**Полтергейст**" *** 3D
8 жніўня – у 16:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Прыгоды, баявік, трылер "**Місія невыканальная: Племя ізгояў**" (ЗША, 2015, пасля 16 год)
7, 8, 11 жніўня – у 20:20
7, 8, 11 жніўня – у 23:00
9, 13 жніўня – у 19:20
9 жніўня – у 22:00
10, 12 жніўня – у 18:20
10, 12 жніўня – у 21:00
Цана: 45 000-50 000 рублёў

Камедыя "**Антураж**" (ЗША, 2015, пасля 18 год)
13 жніўня – у 17:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прем'ера! Крымінальная камедыя "**Агенты U.N.C.L.E.**" (ЗША, 2015, пасля 16 год)
13 жніўня – у 22:00
Цана білета: 50 000 рублёў

ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ

Анімацыя "**Самыя праўдзівыя гісторыі**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
8 жніўня – у 15:00
9 жніўня – у 16:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**Індыкі: Назад у будучыню**" (ЗША, 2013, без узроставых абмежаванняў)
7 жніўня – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя, сямейны "**Прыгоды маленькіх італьянцаў**" (Расія, Італія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
8 жніўня – у 17:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Мультфільм, камедыя, фэнтэзі "**7-ы гном**" (Германія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
9 жніўня – у 14:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Прэм'ера! Анімацыя, фэнтэзі, прыгоды "**Оз: Нашэсце лятучых малпаў**" (Мексіка, 2015, без узроставых абмежаванняў)
11 жніўня – у 15:00
13 жніўня – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя, сямейны "**Прыгоды Падынгтона**" (Вялікабрытанія, Францыя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
11 жніўня – у 17:00
13 жніўня – у 18:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды, фантастыка "**Робаты**" (Малайзія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
12 жніўня – у 15:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Прыгоды "**Таямніца Ягора, ці незвычайныя прыгоды звычайным летам**" (Расія, 2012, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
12 жніўня – у 17:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Камедыя "**Дабл трабл**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
7 жніўня – у 19:00
8 жніўня – у 21:00
9 жніўня – у 18:00
10 жніўня – у 17:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Дэтэктыў, трылер, жахі "**Пакт-2**" (ЗША, 2014, пасля 16 год)
7, 9 жніўня – у 21:00
8, 10 жніўня – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Фэнтэзі, трылер, дэтэктыў "**Як злавіць монстра**" (ЗША, 2014, пасля 16 год)
11, 12 жніўня – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Баявік, прыгоды, драма "**Апошнія рыцары**" (Чэхія, Паўднёвая Карэя, 2014, пасля 18 год)
11, 13 жніўня – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Блэкі ляціць на Месяц**" (Іспанія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
7 жніўня – у 14:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Трылер "**Зыходны код**" (ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
7 жніўня – у 18:30
8 жніўня – у 17:30
9 жніўня – у 20:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Ваенная драма "**Цэль бачу**" (Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
7 жніўня – у 20:30
9 жніўня – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Пчолка Майя**" (Аўстралія, без узроставых абмежаванняў)
8, 9 жніўня – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Камедыя "**Тупы і яшчэ тупейшы-2**" (ЗША, з 16 год)
8 жніўня – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Казкі марскога ваўка**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
12 жніўня – у 14:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Фантастыка, прыгоды "**Галодныя гульні: сойка-перасмешніца ч. 1**" (ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
12 жніўня – у 18:00
13 жніўня – у 20:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Фэнтэзі, баявік "**Ваўкі**" (Францыя, Канада, з 16 год)
12 жніўня – у 20:30
13 жніўня – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Паштальён Пэт**" (Вялікабрытанія, без узроставых абмежаванняў)
13 жніўня – у 14:30
Цана білета: 12 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя ""**Какоша – маленькі дракон"**, (3D, Германія, без узроставых абмежаванняў)
7, 12, 13 жніўня – у 14:00
8, 9 жніўня – у 13:30
Цана білета 15 000 рублёў

Баявік, трылер "**Місія невыканальная: Племя ізгояў**" (2D, ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
7, 8, 9 жніўня – у 18:00, 22:30
12 жніўня – у 18:30, 21:00
13 жніўня – у 20:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, камедыя "**Пікселі**", (3D,ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
7 жніўня – у 20:20
8, 9 жніўня – у 15:30, 20:20
Цана білета: 55 000 рублёў

Крымінальная камедыя "**Агенты А.Н.К.Л.**" (2D, ЗША, з 16 год)
13 жніўня – у 18:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59**

ГАРАСКОП 7-13 ЖНІЎНЯ



**Авен.** Перад вамі адкрываюцца цудоўныя перспектывы, але гэта не значыць, што вам трэба спяшацца. Наадварот, перыяд патрабуе ад вас скрупулёзнасці і ўзважанасці.



**Цялец.** У выхадныя больш часу ўдзяліце адпачынку, бо ад гэтага будзе залежаць ваша душэўная раўнавага.



**Блізняты.** Не зацыклівайцеся на дробязях, вас чакаюць вялікія справы. Але поспех будзе залежаць ад вашай здольнасці цвяроза ацаніць сітуацыю.



**Рак.** У вас не будзе невырашальных праблем. Што б вы ні рабілі, вам будзе спадарожнічаць поспех і ўдача.



**Леў.** Зусім хутка вы будзеце на сёмым небе ад шчасця. З вамі адбудзецца нешта незвычайнае, што пераверне ўвесь ваш уклад жыцця.



**Дзева.** Каб зарабіць, трэба шмат працаваць. Але і не ўзвальвайце на сябе празмерны груз адказнасці, бо гэта можа неспрыяльна адбіцца на сямейных адносінах.



**Шалі.** Каб атрымаць перамогу, вам неабходна ацаніць сябе і ўсе свае матывы справядліва. Бо самы галоўны вораг – вы самі. Вы ставіце ўсё пад сумненне, не верыце ў свае сілы і здольнасці. Паверце ў сябе, і шлях да поспеху будзе нашмат прасцейшы.



**Скарпіён.** Каб падтрымліваць цяпло і ўтульнасць дамашняга ачага, недастаткова проста карыстацца гэтымі адносінамі. Трэба прыкласці нямала намаганняў, у тым ліку і над сабой.



**Стралец.** Працуйце над сабой, мяняйце да лепшага свае адносіны да людзей і да свету. Не будзьце ганарлівыя, бо менавіта ганарлівасць будзе перашкаджаць развівацца.



**Казярог.** Жаданне перамен накрые вас з галавой. Асноўная прычына – застой у асабістым жыцці. Вам не хапае навізны ў развіцці адносін. Каб не ўзніклі непаразуменні, дакажыце сваёй другой палавінцы, што гэтыя змяненні неабходныя.



**Вадалей.** Вам прыйдзецца пераканацца ў вернасці сяброў. З некаторымі прыйдзецца развітацца. І не перажывайце з-за гэтага, бо цяпер вы ведаеце, што вакол вас сапраўдныя сябры.



**Рыбы.** Лёс сам вядзе вас па шляху, які вядомы толькі яму, а вам трэба смела ісці следам і не супраціўляцца падзеям, якія будуць адбывацца з вамі. Гэта ваш шанец.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

9 771991 715006

Камент-эксперт

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на Rh.by

**Рэгіянальная газета. Rh.by** Тэлетыдзень

## НАДВОР'Е

### 8 жніўня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +20 / +32 | | +22 / +33 | | +21 / +33 | | +20 / +33 | |
| | 746 | ↑ 2 | 747 | ↑ 2 | 745 | ↑ 3 | 744 | ↖ 2 |
| Вільня | +21 / +31 | | +19 / +33 | | +21 / +33 | | +21 / +33 | |
| | 753 | ↗ 2 | 754 | ↑ 4 | 752 | ↗ 4 | 751 | ↖ 2 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 5.37
Захад 20,59
Даўжыня дня 15.22

Усход 0.16
Захад 15.54
Квадра 4




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

### АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература +5,6 °С у 1987 годзе
Максімальная тэмпература +30,7 °С у 1991 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 24,3 мм у 2014 годзе
Назіранні за 38 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Выхад на працу – гэта заўсёды стрэс для маладога спецыяліста. Як паводзіць сябе, каб калектыў успрымаў цябе як годнага спецыяліста. Ці трэба змагацца з прафесійнай "дзедаўшчынай" больш вопытных супрацоўнікаў. Што такое мобінг і як яго пазбегнуць, разбіраемся ў наступным нумары.

## ПРОСТА АНЕКДОТ

Мужчына з Піцера прыехаў у жніўні ў Сочы, выходзіць з цягніка. Вакол усе загарэлыя да чарнаты, адзін ён белы, як прывід. Абарыгены пытаюцца ў яго:

– У вас што, лета не было?

– Было, але я ў гэты дзень працаваў.

***

– Дарагі, я ўжо гатовая да дзяцей.

– А я не!

– Нічога не зробіш. Лета заканчваецца, трэба іх забіраць з вёскі.

***

У магазіне электратавараў:

– Скажыце, у вас кандыцыянеры засталіся?

– Ну што вы, канешне, не.

– Можа, халадзільнікі? – Не.

– Маразільнікі?

– Не, апошнія тэрмасы і тыя разабралі.

– Дапамажыце хоць чым-небудзь – сіл няма ад спёкі.

– Ведаеце, у мяне тэрмометр бракаваны ёсць – ён увесь час паказвае +20. Канешне прахалоды не дасць, затое хоць маральнае заспакаенне.

**Аддзел інфармацыі.**

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці робіце вы на зіму закаткі?



**Арцём Пляшкун, адміністратар кафэ:**
– Мне падаецца, што закаткі робяць усе, мая сям'я не выключэнне. Закатваем агуркі, памідоры, варэнні. А ў майго сябра бабуля наварвае шмат варэння з дзьмухаўцоў. Яна ўпэўненая, што яно вельмі карыснае. Праблема ў тым, што сябар не любіць яго, але вымушаны есці, каб не пакрыўдзіць бабулю.



**Марыя Ермаковіч, пенсіянерка:**
– Закатваю агуркі, памідоры, кампоты. Летась паставіла ўсяго 45 слоікаў, засталося толькі пяць. Дзецям даю закаткі, самі ядзім. Ды і дзе ж яно не разыдзецца, зіма ж доўгая.



**Валеры Міхейчык, намеснік дырэктара:**
– Штогод робім закаткі, сярод абавязковых нарыхтовак агуркі, памідоры, кабачкі. Жонка робіць усё, складае іх у слоікі, я закатваю, адношу ў падвал. Але звычайна нарыхтоўкі ў нашай сям'і не з'ядаюцца.



**Вольга Усціновіч, школьніца:**
– Раней бабуля закатвала садавіну, гародніну. Цяпер мая сям'я не робіць нарыхтоўкі. Садавіну, гародніну і летам, і зімой можна купіць свежую ў магазінах, ды і закаткі прадаюцца. Не так іх многа ідзе ў нашай сям'і.



**Вольга Карчміт, у дэкрэтным адпачынку:**
– Заўсёды робім нарыхтоўкі: саленні, кампоты, варэнні. Сёлета закаталі 45 слоікаў кампоту, 18 банак джэму. Сення прыйду дадому, таксама буду займацца закаткамі. Аднак многае не з'ядаецца за зіму, пакідаем на наступны год.



**Вячаслаў Капцюг, кіроўца:**
– Маем свой агарод, таму як не рабіць нарыхтоўкі. Закатваем агуркі, капусту, памідоры. Чаго няма ў сваім агародзе, купляем на рынку. Усё за зіму і з'ядаецца, бываюць гады, калі і мала нарыхтовак.



**Галіна Бялько, пенсіянерка:**
– Раблю нарыхтоўкі – трэба і самім на зіму, і дзецям даць. Сёлета не вельмі добры ўраджай агуркоў, таму нямнога закатала. Як пачаўся сезон на клубніцы, купіла, наварыла варэння, купіла абрыкосаў, каб паласавацца зімой, кампоту з вішні наставіла. Але многае і застаецца.

**Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 32 (1058) 7.08.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1031. Падпісана ў друк у 9.00 6.08.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.